


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

25 ліпеня 2003 года

№ 30 (431)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС ТэлетыДзень

## Навіны рэгіёну

### Сотавыя не маўчаць

**ВАЛОЖЫН.** Усё часцей на вуліцах райцэнтра можна ўбачыць людзей з сотавымі тэлефонамі. Адзін з апаратараў сувязі, прыходу якога чакалі яшчэ ў снежні мінулага года, нарэшце асвоіў і мясцовы рынак. Зручнасць паслугі гараджане ацанілі, яно і не дзіўна – да добрага прывыкаеш хутка.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Атруціліся грыбамі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Не паспелі нарасці ў лесе грыбы, як у цэнтральную гарадскую бальніцу трапілі тры чалавекі з атручэннямі.

Нейкі час гараджан, два з якіх аказаліся жыхарамі сталіцы, што маюць на маладзечаншчыне дачы, адхоўджвалі ў рэанімацыйным аддзяленні бальніцы. Як сказаў яго загадчык Пётр Шугала, прычынай атручэнняў стала чалавечая недасведчанасць. Адны не ўмеюць грыбы збіраць, іншыя – гатаваць.

**Ірына РАБУШКА.**

### Гіне рыба

**МЯДЗЕЛ.** У рэчцы Сэрвач пачала гінуць рыба. У Ілаве заўважылі гэта ў мінулую пятніцу, ў Будславе – у гэты панядзелак. На паверхню ўсплывае здохлая рыба, шмат і аслабленай.

Ёсць і буйныя асобіны. Людзі кажуць, яны і не думалі, што такая можа тут вадзіцца. Мяцца і некалькі версій па гэтай справе. Глядзелі сцёкі прадпрыемства "Ілаўскае", нафтавікі праверылі нафтапровад на аварыю. У абодвух выпадках адхіленняў не знойдзена. Верагодна, што рыба гіне ад недахопу кіслароду.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У навальніцу

**ВІЛЕЙКА.** У сераду на пачатку шостай гадзіны вечара ў жанчыну 1963 года нараджэння трапіла маланка.

Здарэнне адбылося ў лесе каля вёскі Заазер'е, дзе віляйчанка збірала ягады. Пасля яе адвезлі ў рэанімацыйнае аддзяленне раённай бальніцы. Учора жанчыне стала крыху лепш.

**Ірына РАБУШКА.**



# Сірот не становіцца менш

**ВАЛОЖЫН. Кажуць, у саракавых гадах дзіцячых дамоў і прытулкаў было куды менш, чым цяпер. Людзі, нягледзячы на разруху, голад, цяжкасці, не цураліся сваіх крывінак. Пад крыло дзяржавы траплялі толькі дзеці, блізкіх якіх забрала вайна. Больш чым праз паўстагоддзя пасля перамогі сіротамі становяцца пры жывых бацьках.**



Самыя маленькія выхаванцы Валожынскага раённага дзіцячага сацыяльнага прытулку наведваюць дзіцячы садок. Соладка спіцца ў ціхую гадзіну.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Віной таму ў большасці выпадкаў – п'янства. З'ява, што як павуцінне, ахутвае вёскі і гарады нашага рэгіёну. У залежнасць ад гарэлкі трапляюць людзі розных прафесій, розных узростаў. Пачынаючы з чаркі кожны новы дзень, яны больш не думаюць ні пра работу, ні пра блізкіх, ні пра сям'ю, якая гіне і набывае статус недобранадзейнай. З разбуранага сямейнага гнязда дзяўчынак і хлопчыкаў, што жывуць на Валожыншчыне, накіроўваюць у Вішнева. Мястэчка, дзе нядаўна адкрыўся сацыяльны прытулак для такіх вось абдзеленых лёсам дзяцей.

Загадвае гэтай установай Тамара Яцына, шчыры, добры чалавек, які жыццёвую трагедыю кожнага ўспрымае, як сваю. Параненыя душы лечыць калектыў прытулка добразычлівасцю і робіць усё магчымае для таго, каб выхаванцам жылося добра. Аб сваіх мамах і татах тыя ўспамінаюць рэдка і амаль ніколі не просяцца дадому: у свае шэсць-восем гадоў многія паспелі зразумець, што там іх ніхто не чакае. І ў той жа час дзеці не перастаюць заставацца дзяцьмі. Пазіраючы ў вочы выхавальнікам, чакаюць ад іх мацярынскай пяшчоты, казачкі нанач, давяраюць свае маленькія сакрэты. Жыла ў Вішнеўскім прытулку дзяўчынка, якая ўвесь час прасіла пазбавіць сваю маці правоў, бо не магла ўжо трываць яе п'янак і сварак у хаце. А прыгожая дзяўчынка Рыта са слязамі на вачах расказвала, што мама, калі не было за што выпіць, вынесла з хаты і абмяняла на гарэлку яе туфлі. "Старыя, напэўна, былі непрыгожыя", – паспрабавала суцешыць яе загадчыца прытулку. "Мае любімыя, бабуля з пенсіі купіла", – цяжка ўздыхнуўшы, адказала дзяўчынка і па-даросламу падціснула вусны.

Нічога добрага не маглі расказаць пра сваіх бацькоў і Ігар з Грышам. Хлопчыкі, якіх прывезлі з райцэнтра. Маці іх, жанчыну разгульную, не раз папярэджвалі, прасілі ўзяцца за розум як камісія па справах непаўналетніх райвыканкома, так і прадстаўнікі органаў унутраных спраў. Яна абяцала, але назаўтра ж зноў брала ў рукі чарку. Ігару такое становішча ў сям'і падабалася. Ён мог лёгка прагуляць школу, з'ездзіць да сястры ў Мінск. А вось маленькі Грыша, якому толькі-толькі споўніліся 4 гады, не раз клаўся спаць галодным.

Рос без бацькоўскай ласкі і Косцік. Хлопчык, які пайшоў у падрыхтоўчы клас з прытулку. Чатыры літары ведаў маленькі чалавек, калі сюды паступіў, але праз нейкі час, не без удзелу выхавацеляў, адолеў алфавіт і з задавальненнем чытаў дзіцячыя кніжкі.

"Дзіця ў нашым прытулку можа знаходзіцца не больш шасці месяцаў, – расказвае дырэктар Тамара Яцына. – За гэты час органы апекі павінны вырашыць яго лёс. Вярнуць у сям'ю, калі бацькі знайшлі ў сабе сілы выправіцца і накіраваць жыццё ў іншае рэчышча, альбо падшукаць для яго іншую навучальную ўстанову, адным словам, – інтэрнат. Развітваемся цяжка. Дзеці да нас прывыкаюць, ды і мы да іх".

За кароткія шэсць месяцаў чужыя дзеці становяцца сваімі. Выхавацелі і выхаванцы знаходзяць агульную мову і сумуюць адзін аб адным. А няўжо бацькі, нарадзіўшы, могуць памяняць сваіх дзяцей на гарэлку? Не хочацца верыць, што яна такая магутная. Проста людзі, забыўшыся, што жыццё не перапішаш, дазволілі быць сабе слабымі. А дзіцячых дамоў тым часам становіцца ўсё больш і больш.

**Марына СЛІЖ.**



## Маршрутнае таксі



Пасля перапынку на вуліцах Маладзечна зноў з'явіліся таксі-маршруткі.

3-я старонка

## З нашага акна

Прэм'ера рубрыкі. З кожнага акна можа адкрывацца цэлы свет. Асабліва, калі гэтага хочацца. Тым больш, калі само жыццё спрыяе такім адкрыццям. Учора пад вокнамі рэдакцыі пахмяляліся дзядзькі.

5-я старонка

## Маладзечанскі Кусто



Акадэмік АН СССР лаўрэат Ленінскай прэміі Арцемій Іваноў нарадзіўся ў Маладзечне ў сям'і чыгуначнага ўрача.

6-я старонка

# Хлопцы з нашага двара

**МАЛАДЗЕЧНА. Прайшоў кубак горада па футболе сярод аматарскіх каманд. Гэта ўжо чацвёртыя спаборніцтвы. У 2000 і 2001 гадах арганізатарам быў «Малады фронт», у 2002 і сёлета – грамадскае аб'яднанне «Талака» і «Зубр».**

Заяўкі на ўдзел падалі 18 каманд. Але адны футбалісты раз'ехаліся, іншыя не падыходзілі па ўзросту (ад 16 да 25 год). Так што за кубак змагаліся 15 каманд, у тым ліку – з вёскі Краснае. Іх падзялілі на 4 падгрупы, і да чвэрцьфіналу гулялі «па крузе». Так адабралі 8 прыкладна роўных па сіле каманд, якія гулялі з поўнай самааддачай нават пад праліўным дажджом. Арганізатары прапаноўвалі перанесці матчы на іншыя дні, калі будзе сухое надвор'е, але футбалісты не згаджаліся.



Я гэты мяч не прапушчу. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Пераможца гарадскога і рэспубліканскага кубка-2002 каманда «Скарына» сёлета прайграла ўжо ў чвэрцьфінале. 17 ліпеня «ТМ-97» перамагла «Grausam Kraft» і выйшла на трэцяе месца. 18 ліпеня ў парку на спартыўнай пляцоўцы адбылася фінальная гульня паміж «Сінегалам» і «Тройкай». Паколькі гулялі дваровыя каманды, поле было нестандартнае: памерам, як для мініфутбола, з меншымі варотамі і неабгароджанае. Варатары добра набегаліся за мячом, які аднойчы нават выляцеў за межы парка на вуліцу Машэрава. Каб вызначыць наймацнейшых, не хапіла вызначанага часу. Па пенальці «Сінегал» перамог з лікам 3:2. Прызёры атрымалі дыпломы, а гульцы «Сінегалу» – кубак і запрашэнне на Рэспубліканскі кубак незалежнасці, што мае адбыцца 27 ліпеня ў Барысаве. Таксама былі ўзнагароджаны лепшы бамбардзір, лепшы варатар, самы актыўны і дысцыплінаваны балельшчык.

Арганізатары вельмі ўдзячны прадпрымальнікам, якія аказалі спаборніцтвам спонсарскую дапамогу, а таксама спартыўнаму дыспансеру, які забяспечыў усе матчы ўрачамі.

**Святлана ЦІШКО.**

■ КУЛЬТУРА

## Новы год пачынаецца летам

**МАЛАДЗЕЧНА. На двары разгар лета, людзі плануюць свае адпачынкі, працуюць на дачах, а калектыў Мінскага абласнога драматычнага тэатра ўжо падбірае матэрыял і плануе навагоднія святы.**

1 ліпеня адбылася «чытка» навагодніх п'ес, на якую вынеслі матэрыялы трох рэжысёраў. Свае канцэпцыі навагодніх святаў выкладвалі мінчанкі Святлана Навуменка і Таццяна Вінаградава, а таксама маладзечанец Валерый Мурычын.

Усе казкі чароўныя, добрыя і цікавыя. Таму вельмі цяжка было спыніцца на адной. І вось вынік – у новым сезоне чакаюцца дзве новыя дзіцячых пастаноўкі: "Вясёлы роджэр" Даміра Салімзянава (рэжысёр Валерый Мурычын) і навагодняя пастаноўка "Сярэбраная казка" Міхаіла Барценева (рэжысёр Таццяна Вінаградава).

Будзем спадзявацца, што творчыя планы здзейсняцца, і юныя гледачы ўбачаць у новым сезоне два новыя спектаклі.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

## У тэатра час гастроляў

**Кожны год у чэрвені Мінскі абласны тэатр закрывае свой тэатральны сезон і працуе два летнія месяцы на гастролях. Таму што на вялікія падарожжы за межамі краіны, аб якіх марыць кожны акцёр, сродкаў не хапае, падарожнічае абдрамтэатр па Мінскай вобласці. Людзі нам рады, аб чым сведчыць як цёплы прыём, так і шчырыя, сардэчныя апладысменты, якімі адорваюць пасля спектакляў гледачы.**

Не забываемся і пра самых маленькіх, а таксама школьнікаў, што адпачываюць гэтымі днямі ў летніках. Часты госць трупа МАДТа ў аздараўленчых лагерах Валожынскага, Вілейскага, Маладзечанскага, Мінскага, Мядзельскага раёнаў, дзе паказалі сёлетнім летам дзіцячыя спектаклі "Парася, якое спявае, ці Нам нельга без сябра", "Чарадзейства ў краіне Оз", "Мымрык", "Проста Мяфа" і інш.

Нам прыемна было працаваць у летніках "Аўтамабіліст", "Алімпія", "Лясны гарадок", "Фатон", "Нарачанскі бераг", "Брыганціна", "Сонейка", "Сасновы бор", "Налібокская пушча", з настаўнікамі якіх устанавіліся ў нашых артыстаў цёплыя сяброўскія адносіны. Больш таго, многія мінскія школьнікі, якія тут адпачываюць, пазнавалі маладзечанскіх акцёраў, бо даўно сочаць за іх сцэнічным жыццём. Разам з намі яны не проста спявалі. Дзеці падтрымлівалі апладысментамі і сваёй добрай энергіяй. Менавіта яна і давала акцёрам моц, прымушала не звяртаць увагі на цяжкасці, нацягнхяла на ігру на любых, нават не зусім прыстасаваных пляцоўках.

Хочацца спадзявацца, што ў наступным годзе заявак на прыезд маладзечанскай трупы будзе яшчэ больш.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Дзеля жыхароў



**Навошта паставілі бетонныя вазоны на вуліцах, што прылягаюць да калгаснага рынку? Хто за гэта плаціў?**

**Сяргей Тумель. Маладзечна, вул. Міра, 18.**

Адказвае галоўны спецыяліст аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі гарвыканкома Наталля Яршова:

— Ёсць распараджэнне №195 гарвыканкома ад 16 чэрвеня гэтага года «Аб арганізацыі руху аўтатранспарту па вуліцах Л.Талстога і Б.Хмяльніцкага». Гэта робіцца ў мэтах удасканалення арганізацыі руху і ўпарадкавання стаянкі аўтатранспартных сродкаў, а таксама навядзення належнага грамадзянскага парадку на дваровых тэрыторыях, што прылягаюць да рынку.

Ужо зацверджаны план мерапрыемстваў. Дзяржаўтаінспекцыя займаецца арганізацыяй руху. Пастаўлены новыя дарожныя знакі. Робіцца асобная аўтастаянка каля ветэрынарна-санітарнай экспертызы рынку. Вазонніцы, што УП «Камунальнік» закупіла на мясцовых заводах жалезабетонных вырабаў і "Маладзечнажалезабетон", у панядзелак пачалі фарбаваць. Будуць добраўпарадкаваны і дваровыя тэрыторыі па вуліцах Л.Талстога, 1, 3, 5, 8, 10, Б.Хмяльніцкага, 1, 3, 3 б, 5, 6, 6 г, 7. Адзіныя, у каго ёсць нязручнасці, — вадзіцелі, якія прыязджаюць на рынак. Раней яны пакідалі машыны ў дварах гэтых дамоў, зразумела, бясплатна. Але варта стварыць умовы жыхарам, што неаднойчы скардзіліся ў гарвыканком і вышэйшыя органы на вадзіцеляў, якія арганізоўваюць у дварах стаянкі.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Ля вытокаў мастацтва

**СМАРГОНЬ. 1890-я гады. Звычайная шматдзетная сям'я. Прозвішча – Шымшылевічы. Гаспадар працуе паштальёнам. Па тым часе, што ні кажы, — пасада паважаная. А галоўнае – дае гарантаваны заробак. Дзяцей у сям'і – сем.**

Дзве сястры і Бенцыян выбіраюцца ў Мінск. Бенцыян працуе банкаўскім работнікам. Па традыцыі таксама заводзіць вялікую сям'ю: сын Ося і дочкі Хава, Гута, Рыва, Юдэс. Усе яны загінуць у Мінску на пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Саламон працуе ў Лібаве стаматолагам. Старэйшыя – Барыс і Абрам – эмігрыравалі ў 1910 годзе ў Амерыку. Мо, ім пашчасціла больш, і недзе ў ЗША ці ў Ізраілі жывуць нашчадкі смаргонскага паштальёна Восіпа Шымшылевіча. Працуюць, прыкладам, у банку ці кіруюць нейкай тэлефоннай кампаніяй... А мо, займаюцца мастацтвам.

А лёс малодшага з братоў Шымшылевічаў – Якава Восіпавіча (нарадзіўся ў 1890 годзе) – згубіўся ў віхоры сталінскага ліхалецця. Мо, з часам нешта высветліцца, прыадчыніцца – і з'явіцца пэўнае веданне таго віхора. І тады нашае ўяўленне пра сям'ю Шымшылевічаў будзе больш поўным. А пакуль... Пакуль – колькі слоў, столькі здагадак пра Якава Шымшылевіча. У рэвалюцыйнай мітусні 1920-1930-х ён вядомы пад іншым прозвішчам: Якаў Баярскі.

Новая, рэвалюцыйная біяграфія ўраджэнца Смаргоні пачынаецца ў 1905 годзе. 15-гадовы юнак, навучэнец камерцыйнага вучылішча, знаходзіць сабе новых настаўнікаў, чытае забароненую марксісцкую літаратуру. У Беларусі і ў Літве-суседцы па тым часе былі моцныя пазіцыі БУНДА. Яўрэі актыўна ўдзельнічаюць ў рэвалюцыйным руху. У 1911 годзе Якава прызываюць у войска. Сем гадоў службы ў 101-м пяхотным палку. Камандзір – генерал Павел Карлавіч Рэненкампф (1854-1918). Лютаўская рэвалюцыя заспела "рэненкампфаўцаў" у Румыніі ў лясістых Карпатах. У жніўні 1917 года адначасова выбіраюць Якава старшынёй палкавога камітэта. У лютым 1918 года Шымшылевіч дэмабілізуецца.

І пачынаецца новая частка ў біяграфіі нашага земляка. Цяпер ужо Якава Баярскага (як і Ленін, Сталін, Камо, ён набывае псеўданім). Сябры па партыі даручаюць учарашняму салдату пасаду загадчыка аддзела агітацыі і прапаганды Цвярскога губкома. Праз некаторы час Баярскі ўзначальвае Цвярскі губсаўнаргас. Якава абіраюць дэлегатам дзесятага з'езда партыі. Забягаючы наперад, зазначым, што з таго часу Баярскі ўдзельнічае ва ўсіх партыйных з'ездах.

... А тады – удзел у падаўленні Кранштацкага мяцяжу. Следам – прызначэнне старшынёй камітэта прафсаюзаў у Казахстане. Працуе Баярскі-Шымшылевіч і ў Татарстане, іншых кутках Расіі. У 1929 годзе прафсаюзнага і партыйнага работніка вяртаюць у Маскву. Выбіраюць-прызначаюць старшынёй ЦК работнікаў мастацтва. Становіцца ўраджэнец Смаргоні адным з буйнейшых, бліжэйшых памочнікаў Анатоля Васільевіча Луначарскага. Службовыя адносіны пераходзяць у цеснае сяброўства. Тут варта, відаць, узгадаць, якога ўзроўню была ў тыя гады асоба Луначарскага. Партыйны функцыянер, бальшавік са стажам, ён быў з аднаго шэрагу з Троцкім, Зіноўевым, Куйбышавым, Сталіным, Каменевым... Воляю абставін і дзякуючы прыхільнасці Луначарскага да мастацтва, літаратуры – яшчэ ў час, калі Савецкай Расіяй кіраваў Ленін, яго прызначылі адказваць за культуру. І вось ужо сярод паплечнікаў Анатоля Васільевіча, самых блізкіх яго памагатых – наш зямляк.

У сярэдзіне 30-х Савецкі Саюз наведаў французскі пісьменнік і мастацтвазнавец Поль Гзель. Як плён яго творчай камандзіроўкі – кніга пра стан мастацтва ў СССР. Асобны раздзел прысвечаны Баярскаму.

Цёплыя адносіны былі ў колішняга смаргонца і з Маякоўскім. У адной са сваіх запісных кніжак вялікі пралетарскі паэт занатаваў: "... На юбілеі грымёра выступаў Баярскі". Радок гэты так і чапляе: "А ці прыходзяць сённяшнія міністры на юбілеі грымёраў?". Хаця, мо, няма ўжо такіх грымёраў, каб да іх завіталі міністры.

У 1932 годзе на чале савецкай дэлегацыі Баярскі едзе ў Лондан – на Міжнародны фестываль народнага танца. У складзе дэлегацыі – Ілля Сухішвілі, Ніна Рамішвілі, Тамара Ханум... На адкрыцці фестывалю прысутнічала англійская каралева са сваім дваром. Вялікабрытанія была ўражана шматколерным, шматнацыянальным савецкім мастацтвам. Асабліва здзівіла ўсіх Тамара Ханум. Якіх толькі нумароў у яе рэпертуары не было!..

У 1935 годзе Баярскага прызначаюць намеснікам старшыні па справах мастацтваў пры Саўнаркоме СССР. Праз некаторы час – дырэктарам Мастацкага тэатра. Далей сляды нашага земляка губляюцца. Яно і зразумела – быў надзвычай складаны і жорсткі час.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ ТРАНСПАРТ

# Таксі, але не таксі

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля «прастою» на вуліцах горада зноў з'явілася маршрутнае таксі.**



**У Маладзечне зноў з'явілася недзяржаўнае маршрутнае таксі. Цяпер кожны можа выбраць па кішэні, на чым ехаць.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Як сказала начальнік кіравання эканомікі гарвыканкома Святлана Галубовіч, маршрутак не было з-за перарэгістрацыі. Сёлета памяняўся парадак выдачы дазволу на ўнутрыгарадскія перавозкі. Цяпер гэтым займаецца і сочыць за дзейнасцю прадпрымальнікаў гарвыканкам. Па стане на 1 лістапада 2002 года 89 чалавек маюць ліцэнзію на падобныя перавозкі.

Па горадзе ездзіць 7 мікрааўтобусаў-таксі, якія адпавядаюць маршруту аўтобусаў №№ 2, 5, 6, 7, 9, 10, 11. Павялічыцца іх колькасць ці не — залежыць толькі ад жадання прадпрымальнікаў. «У апошні час гэты від дзейнасці набывае папулярнасць», — гаворыць намеснік дырэктра па пасажырскіх перавозках аўтапарка-4 Віктар Руткоўскі. І дадае:

– Разам з тым прасачыць велічыню заробка вадзіцеляў маршрутак складана. Яна залежыць ад колькасці працоўных дзён у тыдзень, тэрміну работы. Можа, чалавек вырашыў працаваць толькі ў пэўны сезон.

Але карыстальнікам маршрутак да зарплаты вадзіцеляў няма справы. Пасажыры задаволены, што з цяжкімі торбамі ці дзецьмі хутка да яшчэ седзячы даедуць дадому. Самае «смачнае» месца для таксістаў-маршрутчыкаў — вакзал. Там больш за ўсё жадаючых, стомленых дарогай у аўтобусах, цягніках і электрычках. Не на шмат адстае маршрут «на прамысловы рынак», як назвалі яго пасажыры. Прычым, нягледзячы на шыльду на мікраатобусе, туды яны хочуць ехаць амаль на ўсіх маршрутках.

– На рынак падвязеш? – пытаюць у вадзіцеля.

– Не. У мяне іншы маршрут.

– Дык я ж грошы плачу.

Ну, як чалавеку патлумачыць, што гэта таксі, але не таксі. Часцяком людзі дабіраюцца на маршрутках у мікрараён №6, спяшаюцца ў дзіцячую паліклініку. Шмат ахвотнікаў давесці ў цэласці і захаванасці свой ураджай з дачы. Але вадзіцелям не надта падабаецца падвозіць дачнікаў. Не-не, ды і пакінуць пасля сябе на падлозе ці сядзенні жменю ягад, якую потым размажуць. Могуць набрудзіць і дзеці, што пакутуюць на марскую хваробу. Але асабліва чулыя і спагадлівыя вадзіцелі з такіх матуль аплату не бяруць.

Што тычыцца кошту на праезд, то яго ўстанаўліваюць самі маршрутчыкі. Сёння — гэта 300-350 рублёў. У першую чаргу сума залежыць ад цаны на бензін. Дарэчы, у параўнанні з мінскімі маршруткамі, дзе цана даходзіць да тысячы, гэта танна.

Але што рабіць: камусьці трэба ехаць, а камусьці — зарабляць.

**Ірына РАБУШКА.**

# Прыйдзе газ у дом

**МАЛАДЗЕЧНА. У незайздроснае становішча трапілі члены кааператыва "ЦІЗА". Прыродны газ, які ім абяцалі падключыць яшчэ ў канцы чэрвеня, у дамы так і не прыйшоў. Расхваляваныя жыхары залінейнага раёна пайшлі па інстанцыях.**

## Спачатку быў ліст

Не абмінулі ў пошуках праўды і "Рэгіянальную газету". На стол рэдактара лёг ліст, у якім, мяркуючы па подпісах, пра свае пакуты расказвалі адразу 25 чалавек. А пачыналася ўсё, па тым жа лісце, так.

Кааператыў "ЦІЗА" быў створаны ў верасні 2000 года. На агульным сходзе, які адбываўся з удзелам улад, яго члены абралі старшыню ў асобе Фадзея Трыпуцькі, бухгалтара, рэвізійную камісію і паціху сталі збіраць грошы на першы ўзнос.

Справы ішлі марудна. Спачатку рыхтавалі дакументацыю, затым старшыня закупляў, развозіў па дамах газавае абсталяванне. І вось доўгачаканы момант настаў: на адным са сходаў людзям паабяцалі, што блакітнае паліва ў дамы прыйдзе ў чэрвені гэтага года. У прадчуванні выгод яны разабралі і вынеслі з даму печы, катлы. Але прайшоў чэрвень, яго змяніў ліпень, а справа з месца так і не зрушылася.

## Сустрэча ў гарвыканкоме

Найбольш актыўныя цізаўцы вырашылі не ўздыхаць, седзячы дома ля тэлевізараў, а дзейнічаць. Тэлефанавалі старшыні кааператыва, звярталіся да намесніка старшыні гарвыканкома Мікалая Воранава. Па яго ініцыятыве і быў праведзены сход членаў кааператыва "ЦІЗА", на якім яго прадстаўнікі, сціпла кажучы, счапіліся са сваім старшынёй. Людзі палічылі, што чалавек, якому яны даверылі прадстаўляць свае інтарэсы, марудзіць справу. Асобныя з іх нават прапанавалі забраць "партфель" і аддаць чалавеку, які сумленна будзе адрабляць грошы. Бо ўвесь гэты час, пачынаючы з дня заснавання кааператыва, старшыня і бухгалтар штомесяц атрымлівалі заработную плату ў памеры дзесяці базавых велічынь. Да такога катэгарычнага рашэння прымусіла прыйсці яшчэ адна акалічнасць. Хтосьці падказаў, што ў выпадку, калі "ЦІЗА" не ўкладзецца ў тэрміны і не скончыць работы да новага года, кааператыў будзе ліквідаваны і зможа аднавіць работу толькі пасля перарэгістрацыі.

Дрэнныя навіны разносяцца хутчэй, чым добрыя. На наступны дзень на Лясных толькі і гаварылі пра тое, што газу не будзе і трэба зноў складаць печы. Жанчыны, што прысутнічалі раней на сходзе ў гарвыканкоме, спрабавалі давесці, што ўлады сам-насам з бядой не пакінуць. Паабяцалі падтрымку маральную, матэрыяльную, але іх ніхто не чуў. Людзям было да слёз крыўдна, што з такой цяжкасцю сабраныя з пенсій грошы губляюць сваю вартасць, лежачы на спецрахунку ў банку, а невядома, калі справа будзе даведзена да канца. Сталі зноў збіраць сход.

## Няма праблем невырашальных

На гэты раз на ім прысутнічалі не толькі прадстаўнікі ад 10-ці вуліц, якія аб'ядналіся тры гады таму ў "ЦІЗУ", амаль што ўсе члены кааператыва. Раз'юшаны натоўп чакаў старшыню, які, на іх думку, быў вінаватым ва ўсіх няшчасцях. Шчыра кажучы, на месцы гэтага чалавека мне быць не хацелася, бо дасталася яму, як кажуць, спаўна. Ці ж перакрычыш народ, які не верыць ніводнаму твайму слову. Хаця, на мой погляд, была ў гэтым віна і самога Фадзея Уладзіміравіча, вельмі ўжо няўпэўнена ён сябе адчуваў і на многія пытанні адказваў двума кароткімі словамі: "Не ведаю". Пасля сходу, праўда, прызнаўся, што не прызвычаіўся да гутарак у такім тоне, таму і палічыў за лішняе даваць людзям, якія цябе не слухаюць, нейкія тлумачэнні.

Крычалі гадзіны дзве. Супакоіліся, калі апусціўся першы змрок. Абагуліўшы ўсё пачутае, выслухаўшы членаў кааператыва і яго старшыню, магу расказаць наступнае: згодна з праграмай газіфікацыі горада прыродны газ у кааператыў "ЦІЗА" павінен быў прыйсці і сапраўды ў чэрвені. Графікі парушыліся. Па чыёй віне, сказаць цяжка. Людзі кажуць, прычына — нерастароплівасць старшыні, які не паспеў своечасова заключыць дагаворы з падрадчыкамі. Ён тлумачыць, што вінаваты зацяжныя дажджы, якія не дазволілі спецыялістам учас завяршыць работы на папярэднім кааператыве і перайсці на іх вуліцу. Паспрабуй адшукаць тут праўду, знайсці вінаватага. Таму і не будзем гэта рабіць. Скажам галоўнае: справа пасля таго сходу і сапраўды зрушылася з месца. Праведзены земляныя работы на вуліцах Марцінкевіча і Тарашкевіча, часткова падрыхтавана для пракладкі труб вуліца Якуба Коласа. Графік правядзення земляных работ, за выкананнем якога сочыць цяпер абраны на тым стыхійным сходзе намеснік старшыні кааператыва "ЦІЗА" Мікалай Жукавец, вытрымліваецца. Да 15 жніўня работы гэтага кшталту будуць закончаны, а пасля ўжо сваё слова скажуць прадстаўнікі мантажных арганізацый і пажарнікі.

Праблема, як зазначыла прадстаўнік газавай гаспадаркі горада Ала Салагуб, вырашыцца. Ніхто не пакіне без газу жыхароў вуліц, будуць накладкі ў працэсе работы, будзе і дапамога: і членам кааператыва, і Фадзею Трыпуцьку, які нямала зрабіў для таго, каб працэс газіфікацыі ўсё ж пайшоў хутчэй.

Большасць жа членаў кааператыва па-ранейшаму не давяраюць свайму старшыні. Абраны новы склад рэвізійнай камісіі, якая займаецца праверкай дакументацыі. Людзі хочуць ведаць, як і на што расходаваліся ўвесь гэты час пакладзеныя на рахунак кааператыва грошы, і маюць на гэта поўнае права.

**Марына СЛІЖ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 17.07 руб. | 24.07 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2065,00 | 2069,00 |
| Еўра | 2303,61 | 2354,83 |
| Злоты | 518,45 | 531,19 |
| Літ | 667,32 | 682,16 |
| Расійскі рубель | 67,66 | 68,18 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2055/2075 | 2065/2085 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 16.07 | 23.07 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 12700 | 12700 |
| Сасіскі, 1 кг | 3900 | 3900 |
| Селядзец, 1 кг | 2750 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 800 | 800 |
| Грэчка, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 1000 |
| Алей, 1 л | 1750 | 1750 |
| Маянэз, 200 г | 500 | 500 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 750 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | 760 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1000 |
| Капуста, 1 кг | 550 | 500 |
| Морква, 1 кг | 1450 | 1000 |
| Лімоны, 1 кг | 2400 | 2300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1850 |
| Памідоры, 1 кг | 1600 | 1300 |
| Агуркі, 1 кг | 700 | 400 |
| Кавуны, 1 кг | 1300 | 800 |
| Яблыкі, 1 кг | 2680 | 1500 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 600 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1500 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 6000 | 5000 |
| Вішня, 5-літр. вядро | 6000 | 6000 |
| Маліна, 5-літр. вядро | 10000 | 9000 |
| Чырв. парэчка, 5-літр. | 2500 | 3000 |
| Крыжоўнік, 5-літр. вядро | 5000 | 4500 |
| Чарніцы, 1 вядро | 5000 | 7000 |
| Суніцы, 1 вядро | 40000 | 30000 |

# Жыве на свеце вёска Гірыны

**МЯДЗЕЛ. Некалі гаманкая і працавітая вёска Гірыны сёння дажывае свой век у статусе пенсіянеркі. Прытуліўшыся да лесу, яна сумна пазірае на векавы бор, звілістую дарогу, па якой яе дзеці і ўнукі пайшлі ў горад. Навучылася "вымаўляць" слова "неперспектыўны" і не скардзіцца больш на няўдалы лёс.**



Колькі іх, закінутых, забытых богам і людзьмі вёсачак па ўсёй нашай Беларусі. Працавітыя, некалі руплівыя, жывуць без школ, магазінаў, добрых дарог. Некалі скардзіліся, цяпер маўчаць. Няма куды хадзіць тымі дарогамі, няма каму. Можа, таму і сцірае іх час з карт населеных пунктаў раёна. Не шкадуючы, не пытаючыся на тое дазволу. Але яны ўсё адно жывуць, жывуць камянямі, што пазаставаліся ад падмуркаў хат, жывуць урочышчамі, крыніцамі, сенажацямі і дарогамі. Жывуць памяццю тых, хто паехаў некалі адсюль назаўсёды, але не перастае вяртацца ў сне. Чалавеку цяжка без бацькаўшчыны…

Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

Кажуць, што абжываць гэтыя мясціны людзі пачалі гадоў дзвесце таму. А вось першыя ўспаміны пра вёску датаваны толькі 1904 годам. Акурат у гэты час Гірыны адносіліся да Кабыльніцкай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. У 1907 годзе тут было сем двароў, у 1921 – ужо дзевяць. Расказваюць, што людзі, якія тут будаваліся, мелі адно прозвішча – Дзяргач – і даводзіліся адзін аднаму сваякамі.

Жылі даволі багата: кожны меў свой надзел зямлі, трымаў гаспадарку. Падтрымкай быў і лес, адкуль насілі мяхамі грыбы; возера, дзе заўсёды вадзілася рыба. У гады Вялікай Айчыннай вайны ад партызанскага краю, Гірынаў, немцы пакінулі адны коміны, але людзі не адцураліся сваіх месцаў. Пабудавалі зямлянкі і цярпліва чакалі лепшых часоў.

### Праз цяжкасці

Разбураным застаў сваё сямейнае гняздо і Іосіф Дзяргач. Залечваць раны не было часу. Чалавечых рук чакала зямля, ды і жытло будаваць трэба было. Зруб яшчэ неяк узвялі (Іосіфу як інваліду вайны выдзеліў лес сельвыканком). А вось цвікоў, бляхі, каб накрыць хату, было недакупіцца. Ды і адкуль брацца тым грошам, калі, адпрацаваўшы з жонкай Ядвігай па 366 працадзён у калгасе, атрымалі на дваіх мяшок збожжа і заработную плату, якой было толькі на хлеб?

Весялей зажылі восенню, калі сабралі з поля ўласны ўраджай, выбралі бульбу. Але есці ўволю ўсё адно сабе не дазвалялі. Чалавек жа жыве не адзін дзень, таму прыпасы расцягвалі да наступнага ўраджаю. А хлеб, дык і наогул, ездзілі купляць у Мінск. "Прывязеш, адстаяўшы ў чарзе, буханак сорак, – успамінае гаспадар, – тады ўжо спіш спакойна". І гаспадыня, як бы прадбачыла маё пытанне, – дадала: "Чэрствы не елі, адразу мачылі, а пасля зноў у печ клалі, каб падсох".

Працы не баяліся. Трымалі, калі сталі дазваляць улады, каня, двух кароў, свіней, курэй, гусей. Жылі з гаспадаркі, зароблены рубель адкладалі і кожны год куплялі што-небудзь у хату. Каб не горш, чым у людзей было, каб мець, як усе, паліраваную шафу, канапу ў пярэднім пакоі, дыванок над ім, ды яшчэ рубель на пасаг дачцэ, абжыткак сыну.

Дарэчы, ён першым і пакінуў бацькоўскую хату. Атрымаўшы няпоўную сярэднюю адукацыю, паехаў вучыцца ў Вілейку на механізатара. А адтуль «вярнуўся» ў труне. Трапіў у час шэфскай дапамогі вучылішча калгасу пад колы машыны. Людзі думалі, што Дзеркачы звар'яцеюць ад гора. Сама не свая, быццам нічога не бачыла перад сабой, ішла на работу ў калгас Ядзя, замкнуўся Іосіф. Былі моманты, што яны наогул не размаўлялі: ні з людзьмі, ні паміж сабой, каб не ўспамінаць, не плакаць, не трывожыць малодшую дачку, якая таксама цяжка перажывала смерць брата.

А праз некалькі гадоў Ядвіга асмелілася і нарадзіла ўжо не ў маладым узросце яшчэ адну дзяўчынку. Клопаты аб ёй і вярнулі бацькоў да жыцця. Прымусілі зноў радавацца сонцу, небу, новаму дню. Толькі не суджана было прапісацца шчасцю ў іх хаце. Злягла гаспадыня. Урачы звязалі хваробу з перажытым горам. Як страшны сон, успамінаюць яны з мужам тыя гады і не перастаюць дзякаваць богу, які ўсё ж дапамог стаць жанчыне на ногі, даў кавалачак здароўя, каб падняць дзяцей.

Сёння Ванда з Галяй, іх дочкі, жывуць у Гродне. Маюць там свае сем'і, кватэры. А бацькам застаецца толькі чакаць тых шчаслівых дзён, калі гараджане знойдуць час, каб наведаць іх. Прыязджаюць у асноўным вясной – пасадзіць агарод; ды восенню – сабраць і ссыпаць у склеп тое, што нарасло. Маладыя, дужыя, працы маюць не больш, чым на дзень: бацькі даўно адмовіліся і ад гаспадаркі, і ад дадатковых сотак на калгасным полі, засаджваюць толькі надзел зямлі ля дома.

### Калі застаешся адзін

Марыя Дзяргач не мае і гэтага. Муж памёр, пакінуўшы ў чужым краі адну, хворую, а дзяцей не нарадзілі. Ужо пенсіянерамі пераехалі яны з Вільні ў Гірыны. Занядужалі свёкар са свякроўю, і іх трэба было некаму дагледзець. Відома, можна было забраць старых да сябе, у горад. Ды не адважыліся Дзергачы парушаць іх уклад жыцця. Вырашылі пакінуць кватэру і пажыць некалькі гадоў разам. Ехалі на год, засталіся – назаўсёды. Ды яшчэ і пажар перажылі, які знішчыў іх дом у 1987 годзе. І гэта вытрымалі, адбудаваліся, уклаўшы ў новае жытло амаль усе выручаныя за віленскую кватэру грошы. А ў 1995 памёр муж. Пакінуў сваю Марыйку адну ў неперспектыўнай вёсцы на дзесяць двароў.

### З цягам часу

З цягам часу пустых хат стала яшчэ больш. З пастаянных жыхароў засталіся толькі Ганна Моўчан, Мар'ян і Альдона Гірыны, Андрэй Няўзораў са старэнькай маці ды сям'я Пісарчыкаў. Яны маюць адну карову на ўсю вёску, некалькі падсвінкаў, чараду курэй, якіх водзіць гарласты рабы певень. Жывуць ціха, адасоблена. Старэчыя ногі сталі цяжкімі і не заўсёды вядуць нават у суседні двор. Тым не менш, навінамі абменьваюцца, калі збіраюцца два разы на тыдзень у цэнтры вёскі, куды прыязджае, хоць і нерэгулярна, аўталаўка. Выбар прадуктаў прывозяць няхітры: муку, крупы, хлеб, алей. Калі папросіш, могуць даставіць з Мядзела некалькі кілаграмаў кілбасы, рыбу. Хаця на такія прысмакі грошы маюць не заўсёды. За 40 гадоў працы на фабрыцы ў Вільні Марыя Дзяргач зарабіла 80 тысяч рублёў пенсіі, яе аднафамілійца Ядвіга, якая ўсё жыццё шчыравала ў родным калгасе, – толькі 57. Ці разгуляешся на гэтыя грошы, калі кожны месяц трэба плаціць за электраэнергію, адкладаць на дровы, брыкет, каб не замерзнуць зімой у нятопленай хаце? Таму, як сціпла жывуць, так сціпла і харчуюцца, часам зайздросцяць жыццю, якое паказваюць па тэлевізары. Ён – адзіны сродак зносін са светам, бо ў Мядзеле, які знаходзіцца пад бокам, многія з жыхароў Гірынаў не былі два, а то і тры гады.

Надарыцца якая патрэба ў горадзе – просяць сацыяльную работніцу, якую па-свойску завуць Зоечка. Яна і талон на брыкет прывязе, і лекі з аптэкі, і танных прадуктаў з рынку.

"Шкадуеце сваю вёску?" – пытаюся ў нешматлікіх насельнікаў Гірынаў. Жанчыны толькі цяжка ўздыхаюць. Шкада, вядома шкада, што праз гадоў гэтак дзесяць-пятнаццаць застануцца закінутымі і іх хаты. Не будзе каму садзіць агароды, збіраць у садзе сакавітыя яблыкі, змагацца з пустазеллем, якім зарастаюць сядзібы іх суседзяў. Але і дзяцей сваіх, унукаў, вяртаць сюды не хочуць. Што бачылі яны, вясковыя людзі, за сваё жыццё? Працу ад рання да змяркання, ды дарогу ад печы да хлява, дзе заўсёды чакала гаспадарка. Хай хоць дзеці пражывуць лягчэйшае, лепшае жыццё.

**Марына СЛІЖ.**

# У падарожжа па Гальшанах

**Калі вы вырашылі адправіцца ў вандроўку, то няма лепшага месца за Гальшаны.**

Сёння гэта адзінае мястэчка на Беларусі, якое захавала поўны сэнс гэтага слова. Мястэчка вядома рэштамі палаца, якія і сёння зачароўваюць любога краязнаўца ды проста наведвальніка Гальшаноў.

Агляд мястэчка, канечне ж, трэба пачынаць з руінаў замка, якія складаюць 1/4 частку ад былога збудавання – помніка XVI-XX стагоддзяў. На вялікі жаль, былая велічнасць пабудовы даўно ўжо страчана, але і тое, што засталося, уражвае. Калі падыдзеце да палаца, вы адразу заўважыце рэшткі двух веж (усяго іх было 5). Зайшоўшы ў вышэйшую, убачыце ўпрыгожаную столь. Калі пройдзеце па руінах, без усякіх цяжкасцей зможаце знайсці своеасаблівую цэглу, так званую "пальчатку". На ёй вытворца пакінуў адпячаткі пальцаў рук.

Далей трэба крочыць па вуліцы Замкавая. З правага боку перад вамі паўстане капліца. Пад яе дахам размяшчаецца фігурка Ісуса Хрыста з крыжам. Адразу пасля капліцы збочвайце ўправа. Напярадзе стаіць дзіцячы садзік, а за ім – сярэдняя школа. На першым паверсе школы знаходзіцца этнаграфічны музей. Яго дырэктар – Яніна Корзун. Яна з вялікай ахвотай раскажа вам пра гісторыю мястэчка.

Зноў вяртаецеся на вуліцу Замкавую і крочце наперад. З правага боку вы ўбачыце будынак. У ім падчас польскай акупацыі месціўся так званы "польскі сельсавет". Побач, з другога боку вуліцы, стаіць Свята-Георгіеўская царква, якая была пабудавана ў 1901 годзе. Настаяцель царквы Андрэй Ляўчэнка напісаў аб ёй кнігу "Гольшанской Свято-Георгиевской церкви 100 лет (1901-2001)".

Падыходзячы да скрыжавання вуліц Замкавая і Трабская, з абодвух бакоў вы ўбачыце цагляныя дамы, у якіх раней змяшчаліся яўрэйскія лаўкі.

Прайшоўшы праз вуліцу Трабскую, вы апынецеся на плошчы. Перад плошчай стаіць помнік савецкім воінам, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Ля плошчы месціцца і кляштар францысканцаў. Комплекс складаецца з касцёла Іаана Хрысціцеля і манастыра. У манастыры месціцца філіял Нацыянальнага мастацкага музея.

Калі агледзеце музей, варта пайсці адпачыць у мясцовы сад. Ён знаходзіцца крыху далей за кляштарам з левага боку. Па дарозе можаце наведаць вадзяны млын.

Найбольш цікаўныя могуць яшчэ завітаць да гарадзішча. Яно знаходзіцца на ўсходзе на адлегласці 1,5 км ад мястэчка.



Замак XVI-XX стагоддзяў у Гальшанах.

Спадзяюся, што праведзены ў Гальшанах час не будзе марным. Жадаю поспехаў у падарожжы.

**Сяргей МАКАРЭВІЧ, Вілейка.**

■ З НАШАГА АКНА

# Бутэлька на траіх

**Вокны рэдакцыі не выходзяць ні на цэнтральную плошчу горада, ні на бойкую вуліцу. Перад вачыма штодзень градкі (сярод якіх ёсць і наша) ды бетонная агароджа, якая, як падкова, атуляе двор шостай школы. Але і на гэтым "пятаку" кожны дзень нешта адбываецца. Учора, напрыклад, акурат насупраць нашага акна пахмяляліся дзядзькі.**



Віпітая бутэлька схіляе да задушэўных размоў.

Фота Яўгенії МАНЦЭВІЧ.

Кампанія была рознаўзроставая. Два мужчыны хутчэй за ўсё пенсіённага ўзросту і адзін, як прынята гаварыць, у росквіце сіл. Бутэльку адкаркаваў малодшы, але да рыльца, з якога спакушальна запахла віном, не прыкладся. Перадаў напой у рукі сівога дзядка, які ў імгненне вока адцягнуў з бутэлькі свае "сто" грамаў.

Чаркі не было, мералі, хутчэй за ўсё, "булькамі". А вось закусь прыдбалі. Маладзейшы дастаў з кішэні і паклаў на парапет (высокі бардзюр) 2 кавалкі пячэння. Дзяды закусілі, а ён проста закурыў.

Бутэлька ў гэты дзень была, відаць, не першай, бо захмялелі адразу ж. І, як належыць людзям "культурным", павялі задушэўныя размовы. Малады маўчаў, найбольш размахваючы рукамі і прытопваючы нагой, нешта расказваў мужчына ў акулярах. Праз хвілін дзесяць бутэльку зноў пусцілі па крузе. Пілі беражліва, так, каб хапіла яшчэ на адзін заход. Пасля другой не закусвалі і не размаўлялі. Сядзелі моўчкі, кожны думаў пра сваё...

Пустую бутэльку не выкінулі. Малады, перакуліў яе донцам уверх, быццам бы там маглі застацца каштоўныя кроплі, і паклаў пустую тару ў вялікі чорны пакет. Гэтак жа клапатліва загарнуў у паперу пячэнне, што засталося. Дзень толькі пачынаўся. Хто ведае, можа да вечара яшчэ дзе перападзе, і закусь не будзе лішняй.

**Марына СЛІЖ.**

# Разумныя жарты пахвалы варты

**Санлівая і зарослая ўлетку водарасцямі рэчка ў час вясновай паводкі шалела і была падобна да калгаснага вартаўніка Міфодзя, які ўсю вясну і лета корпаўся ў агародзе. Але раз, а то і два на месяц ён моцна напіваўся, ірваў на сабе кашулю і з асінавым колам у руках бегаў за сваёй жонкай. Параска была злосная і хітрая баба. Але, як толькі муж дападаў да гарэлкі, не супрацiўлялася, а хавалася: зімою за хлевам, а летам – у агародзе.**

Міфодзя па завядзёнцы прыкладаўся калом да акна, выбіваў паўрамы і, задаволены помстаю, клаўся спаць. А самай раніцай жонка будзіла суджанага і, надаваўшы кухталёў, адпраўляла ў райцэнтр па шкло. Усю няблізкую дарогу да горада мужчына цяжка ўздыхаў, бажыўся, што браў у рукі кол апошні раз. Але праходзіў тыдзень-другі і Міфодзя зноў садзіўся ў аўтобус ехаць па шкло. Вадзіцель, па натуры гаварун і весяльчак, нейк пажартаваў: "Ну што Шкляр, зноў бяда?" З тагго часу вяскоўцы бы забыліся сапраўднае імя вартаўніка. Міфодзю клічуць Шкляром, Параску – Шклярыхай. Тыя толькі смяюцца. Маўляў, самі сабе мянушкі зарабілі.

Затое малады ляснік Янечка гатовы "забіць" чалавека, які першым назваў яго Нутрыя. А ўсё таму, што тырчаць у хлопца спераду два вялікія зубы, а над імі яшчэ і рыжыя вусікі. Ды не толькі яго "аблюбавалі" людзі. Калгаснага шафёра Косцю за вялізныя, навыкаце вочы завуць Жаба, а падслепаватую, у вялікіх акулярах магазіншчыцу – Сава. У адной з арганізацый працуе дыспетчарам Дося – маладзіца, што залішне любіла рэкламаваць пральныя парашкі; а ў школьнай сталоўцы гатуе дзецям ежу Шыльбабон.

Як ні круці, а вызначаючца нашыя людзі назіральнасцю, пачуццём гумару. І што характэрна, могуць па-добраму пажартаваць не толькі з іншых, але і з сябе. Неяк надарылася трапіць у госці да дзядка, які дажывае век халасцяком і даўно не браў у рукі венік, каб зняць павуцінне. Аж бач – не разгубіўся. Усміхнуўся хітра ў сівыя вусы, а пасля пазнаёміў з адпаведнай філасофіяй: "Павуцінне мух ловіць!"

Некалькі дзён таму, вясёлая цётка, прапаноўваючы на рынку свой тавар, самакрытычна зазначала: "Нешта масла маё на гэты раз спалоханае. Бялейшае, чым трэба". А другая, стоячы на аўтобусным прыпынку з поўнай, здавалася б, непадымальнай сумкай, не прамінула сама з сябе пажартаваць: "Да ўнучкі трэба, цяпер жа не Чырвоныя Капялюшыкі да бабуль ходзяць, а наадварот".

Сталая жанчына вельмі ўжо старанна ўзважвае свае яблыкі. Пакупніца ўважліва назірае за ёй і зазначае: "Ну, вы ўжо, як у аптэцы". "Свая ручка – не сучка, за так не дае," – смяецца тая і кідае ў сумку яшчэ адзін залаціста-жоўты яблык.

...Бываючы ў камандзіроўках, сустракаючыся з людзьмі, заўсёды трымаю напагатове аловак і блакнот, у якім накапілася за гэты час нямала трапных, "смачных" слоўцаў і выразаў. Перачытваю іх і не перастаю дзівіцца вобразнасці, сакавітасці роднай беларускай мовы, спорна перасыпанай прымаўкамі, прыказкамі, жартамі. А яшчэ больш радуюся за людзей, якія перажываюць не зусім простыя часы, але не згубілі пачуцця гумару, не развучыліся смяяцца, жартаваць, радавацца, спачуваць адзін аднаму і дапамагаць, што вельмі важна.

**Марына СЛІЖ.**

■ БЕЛАРУСЫ

# Тыя, хто ўзяліся за рукі

**ВІЛЕЙКА. Часцяком прыходзіцца чуць выраз: незнаёмае побач. Усюды, у кожнай старонцы, дзе б ні апынуўся чалавек, яго можа сустрэць нешта дзіўнае і неардынарнае. Галоўнае – уменне бачыць. Як казаў Мільтан, кожны па свайму жаданню можа пераўтварыць рай у пекла і наадварот.**

Два храмы стаяць на вуліцы 17 верасня ў Вілейцы: царква і касцел – вуліцы, якая з'яднала заходнікаў і ўсходнікаў. Дзве душы – адзін народ. Цікава назіраць, як вясельны картэж пад'язджае спачатку да аднаго храма, потым да другога, і ў гэтай дзеі можна назіраць сапраўдную чалавечую еднасць, узаемапавагу праваслаўных і каталікоў. Шкада, пакуль шмат ад каго можна пачуць, што праваслаўе — руская вера (а не балгарская ці грэчаская), а каталіцызм мае толькі польскія карані. А як жа Італія з Рымскім папам? Мала хто ведае, але на плошчы каля парка знаходзіцца яшчэ адзін храм, уніяцкі. На жаль, ён быў знішчаны падчас Другой Сусветнай вайны. Цяпер уніяцкія вернікі не маюць свайго прыхода.

Беларусы – адзін народ, і рознае падзяленне, аднясенне іх праз рэлігійную прыналежнасць то да усходу, то да захаду – беспадстаўнае і мае пад сабой толькі стэрэатыпнае абгрунтаванне. Руская мова ў царкве і беларуская з польскай у касцеле разрываюць веру беларуса на ўсходнюю і заходнюю. Беларус не задумваецца, што які-небудзь адзіны народ не мае сваёй спецыяльнай рэлігіі.

Прарадзімы розных вераванняў – старажытныя Італія і Грэцыя – распаўсюдзілі свае рэлігіі па ўсім свеце з тымі ці іншымі відазмяненнямі. Яны закранулі і Беларусь, але час ад часу сустракаюцца непаразуменні, калі людзей пачынаюць дзяліць па рэлігіях і адносяць да нацый, забываючы пра нашу тутэйшасць, тутэйшасць любога народа ў любым іншым месцы. Хто выходзіць з Вілейскай царквы, заходзіць у касцёл, каталіка вітае царква. Твар да твару, рука ў руку – лепшы прыклад чалавечай годнасці і паразумення. Калі ты іншы, ты не горшы, як не горшы і я. Людзі каштоўныя самі па сабе: гэта тычыцца не толькі рэлігійнай прыналежнасці, а і ўсяго нашага жыцця. Возьмемся за рукі, як гэта зрабілі Вілейскія касцёл і царква.

**Аляксей ЧУБАТ.**

## Беларускамоўныя студэнты-медыкі

**Алег Васільевіч Юрпін працуе ў клініцы, што знаходзіцца ў Бараўлянах, у аддзяленні уралогіі. Я з цікавасцю пазнаёміўся з чарнявым, высокім доктарам у акулярах з гэтай лекарні. Мяне прыемна здзівіла тое, што ён добра валодае і карыстаецца сакавітай роднай мовай, на якой гаварылі і пісалі Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Купала, Колас. Скажам шчыра: не часта спаткаеш доктара, які б не цураўся роднай мовы. Чалавек ён начытаны, інтэлігентны, культурны. Гэта адчуваеца неяк адразу ў гутарцы на любую тэму, на ўсё ёсць уласнае меркаванне. У бальніцы да яго прыслухоўваюцца не толькі уролагі-хірургі, але і кафедра уралогіі на чале з прафесарам Аркадзем Грэсем.**

Духоўныя крылы для ўзлёту атрымаў ад сваіх хросных бацькоў Мікалая Пятровіча і Валянціны Мікалаеўны, вельмі шчырых беларусаў з Салігорска. Яны паспрыялі, каб іх любімы Алег таксама абраў шлях медыка. Гэтыя людзі не толькі медыкі, але і сапраўдныя духоўныя аратыя, шануюць і паважаюць сваю Бацькаўшчыну, як нешта святое, нязгаснае. Гэтую любоў сын былога старшыні незалежнага на той час прафсаюза гарнякоў Беларусі Васіля Юрпіна нясе з гонарам у сваім сэрцы. Калі стаў студэнтам медыцынскага інстытута, знайшоў сяброў-аднадумцаў, якія прыязна ставіліся да роднай мовы.

Утварыўся беларускамоўны гуртох, ініцыятарам якога былі Алег Юркін, Алег Стасевіч, Наталля Лагодзік, выкладчык Сяргей Прыхожы і іншыя прыхільнікі матчынага слова. Распрацавалі метадычкі па беларускай мове, аднаўлялі тэрміналогію, праграмы... Складалі беларускія слоўнікі. Адзін такі беларуска-рускі слоўнік па фізіялогіі пабачыў свет у 1994 годзе. Быў падрыхтаваны да друку фармакалагічны слоўнік. Думалі і пра прадаўжальнікаў гэтай справы. Некаторыя крывіліся, зневажальна глядзелі на іх работу. Тым не менш справы рухаліся. Беларускамоўны гуртох займеў высокі аўтарытэт не толькі ў інстытуце. Гэта было шырока вядомае аб'яднанне рызыкантаў сярод вышэйшых навучальных устаноў. Шмат было і заступнікаў гэтай ідэі. На кожнай кафедры ішла хваля адраджэння беларускай мовы, культуры.

Сёння былыя студэнты свята выконваюць клятву Гіпакрата. Іх прафесіі розныя. Ёсць мікрахірургі, тэрапеўты, урологі, гінекологі... Але самае галоўнае – іх аб'ядноўвае не толькі прафесійны саюз, але і той нязгасны духоўны набытак, тая маладая інстытуцкая крыніца, адкуль чэрпалі сілы, любоў да роднай Бацькаўшчыны.

**Сымон БЕЛЫ, заслужаны настаўнік РБ, пісьменнік.**

 



# На звышсакрэтным аб'екце

У працоўнай кніжцы Міколы Місуны запіс звышлаканічны:

"1 верасня 1941 года залічана сталяром на пляцоўку № 2 – Прасвет. 2 лістапада 1947 года звольнены па хваробе.

Начальнік аддзела кадраў УВСР № 501 (подпіс)".

— Тылавы пацук! – такімі словамі балюча абразіў Міколу работнік Вілейскага ваенкамата, калі ставіў "сталяра" на ваенны ўлік у 1947 годзе. Але пад страхам суровага пакарання Мікола мусіў моцна трымаць язык за зубамі, не выдаваць таямніцу тых шасці апраметных годоў неймавернай катаргі ў далёкай ад фронту тайзе.



Справа налева: Мікола Місуна з сынамі Пятром і Уладзімірам і жонкаю Вольгай.

Фота з сямейнага альбома Міколы МІСУНЫ.

### Дадзены загад яму... на поўдзень

Вясной 1940 года мядзельскі венкамат прызваў Міколу Місуну ў Чырвоную Армію. Адправілі на край свету – аж у далёкі Узбекістан на мяжу з Афганістанам. Там у наваколлі горада Цермеза пачалася нялёгкая служба ў конным горна-артылерыйскім дывізіёне. Вучыліся ваяваць у гарах. Навучвалі баявыя часткі пушкі і боекамплект да яе на табун у 13 коней і па горных сцяжынках здзяйсняць марш-манеўр уверх, пад самае неба.

— Уніз зірнеш – аж сэрца заходзіцца: шматкіламетровая бездань... Уверх краем вока глянеш – навісаюць вычварныя скалы, — успамінае Мікола Мікітавіч. – Ды і сцяжынка – каменны карніз. Не шырэй за ступню.

22 чэрвеня 1941 года грознае рэха вайны данеслася і да горных артылерыстаў. Яны не спатрэбіліся ў абарончай вайне на раўнінных прасторах СССР. Таму іх перадалі зенітчыкам: сталі ўзмоцнена трэніраваць знішчаць нямецкія самалёты, якія панавалі ў паветры. Толькі 10 жніўня іх павезлі на фронт.

У Паўночным Казахстане іх нечакана "тармазнулі" ў Петрапаўлаўску. Пастроілі. Скамандавалі беларусам-заходнікам выйсці са строю. Потым іх высадзілі на станцыі Курган. А эшалон рушыў далей. На захад, на фронт...

### Звышсакрэтны аб'ект "УВСР № 501"

Даставілі заходнікаў на станцыю Прасвет, да канца забітую пасажырскімі саставамі, вагоны якіх былі чамусьці пафарбаваны маскіровачнымі плямамі. Заходнікі з імі яшчэ пазнаёміцца бліжэй. У свой час...

Цяпер іх адвезлі па таемнай чыгуначнай ветцы ў тайгу. За тры ахоўныя паласы калючага дроту. У палатачны гарадок. Аб'явілі: будуць будаваць звышсакрэтны падземны аб'ект. Адсюль – ні нагой!

Разам з тымі, хто пракладаў метро, збудавалі вялізнае сховішча. У ім змясцілі вялікія металічныя ёмістасці. Затым байцоў навучылі правілам супрацьхімічнай абароны, выдалі супрацьхімічныя сродкі. А неўзабаве каля іх аб'екта спыніўся ўжо знаёмы эшалон у камуфляжнай форме. Як высветлілася, унутры вагонаў знаходзіліся цыстэрны з атрučнымі рэчывамі (АР): іпрытам, люізітам, фасгенам і дыфсгенам. Байцам у супрацьхімічных сродках даводзілася перапампоўваць АР з вагонных цыстэрнаў у ёмістасці збудаванага імі "метро". Кожны газ — у адпаведную ёмістасць. У 10 катлаванах размяшчалася па 10 рэзервуараў у кожным, рэзервуар умяшчаў 300 тон атрутнай сумесі.

Процівагазы абаранялі чалавека 3 гадзіны ў атрутным асяроддзі. Але байцы не маглі вытрымаць больш адной гадзіны працы: ад смярдзючага прагумаванага адзення круцілася галава, рабілася моташна. Байцоў ванітавала проста ў процівагазы, і яны гінулі. Таму на працу пачалі выходзіць нашча. І гібель сярод "сталяроў" спынілася. Часова.

Самая бязлітасная небяспека іх чакала наперадзе.

### Калі ўзнікала хімічная пагроза

На спецаэрадромах дзяжурылі спецсамалёты хімічнага ўдару. Калі ўзнікала небяспека нападу немцаў, самалёты ў адказ падвешвалі ёмістасці з АР. Тады з вядомага нам падземнага газасховішча спецэшалоны запампоўвалі АР у свае цыстэрны і дастаўлялі на спецаэрадромы. А калі небяспека хімічнага нападу знікала, АР прывозілі назад і здавалі газасховішчу.

Праўда, як усё проста? Байцы-"сталяры" ў спецсродках хімабароны перапампоўваюць АР туды-сюды. Бышцам бы ніякіх складанасцей. У тэорыі. А на практыцы... Рабілася гэта пад кіраўніцтвам бязлітаснага да людзей начальства. Таму, калі з якога-небудзь рэзервуара выпампоўвалі ўсё АР, гэтую ёмістасць загадвалі дэгазаваць унутры.

Рабілася гэта так. У сродках хімабароны "сталяр" у прысутнасці і пад наглядам санінструктара і ваентэхніка адчыняў крышку-люк рэзервуара, і яны ўтраіх спускаліся па стацыянарнай лесвічцы на дно. "Сталяр" на працягу гадзіны спачатку дэгазаваў сценкі рэзервуара спецраствoрам № 1, затым – спецраствoрам № 2. Не паспяваў "прапшыкаць" з пульверызатара ўсю паверхню за гадзіну – гэтая група пакідала ёмістасць. Іх працу заканчвала другая група. А першая ішла праходзіць дэгазацыю. Дэгазацыя спецадзення адбывалася пад душам № 1, у душы № 6 апраналіся ў новае абмундзіраванне і абувалі новыя боты. Затым каля трох кіламетраў крочылі ў палатачны гарадок: адпачыць, пад'есці, вярнуць сілы...

### "Газавы наморднік" на фашысцкую Германію

Як бачым, самай небяспечнай працай для "сталяроў" была дэгазацыя ўнутранай паверхні ёмістасцей. У тых душагубках амаль штодзённа гінулі байцы: калі – адзін, а калі — нават тры. Неўзабаве непадалёк вырас вялікі могільнік.

А для чаго, спытаем, праводзілася тая смяротэльна небяспечная дэгазацыя? Мікола Місуна растлумачыў гэта так:

— Вызвалялася ёмістасць з-пад іпрыту, а маглі прывезці іншую газу. А яны не сумяшчальныя.

Дык чаму ж тады не завозіць толькі тыя АР, з-пад якіх вызваляліся ёмістасці? Ці пабудаваць некалькі рэзервовых ёмістасцей? І, наогул, ці была патрэба заварваць усю гэтую кашу?

Пагроза хімічнага нападу фашысцкай Германіі на СССР узнікла ранняй вясной 1942 года. Савецкі пасол Майскі паведаміў англійскаму прэм'еру Чэрчылю, што немцы падчас вясенняга наступу могуць выкарыстаць газы. Чэрчыль у тэлеграме Сталіну ад 21 сакавіка 1942 года паведаміў: "Я стварыў каласальныя запасы газавых бомбаў для скідвання з самалётаў". Ён паабяцаў Сталіну, што папярэдзіць Германію: хімічны напад на СССР мы будзем разглядаць як выклік Англіі і ў адказ выкарыстаем гэтыя бомбы. Мусіць, гэтае папярэджанне паралізавала газавы імпэт немцаў, і да канца вайны на фронце ні адной краінай АР не былі выкарыстаны.

А вось у СССР газавая паніка працягвалася. Атрутныя газы то вывозілі да самалётаў, то зноў вярталі ў газасховішча. Гэта былі катастрафічна небяспечныя перавозкі. Пасажырскія вагоны ў камуфляжы не мелі бранявой абароны. Варта было б аднаму варожаму кулямётчыку абстраляць эшалон, і маштабы трагедыі немагчыма ўявіць. Бо нават ад нязначнай пары АР на многія кіламетры вакол газасховішча памерла тайга.

Вясной 1944 года "сталяр" Мікола Місуна праводзіў чарговую дэгазацыю рэзервуара з-пад іпрыту. Санінструктар прыкмеціў, што той хісноцца. Міколе загадалі тэрмінова лезці наверх. На апошняй прыступцы баец Місуна ўпаў на рукі таварышаў...

Апрытомнеў на вуліцы: ляжаў распрануты, а санінструктар адпампоўваў з лёгкіх пары іпрыту. Цудам вярнуў яго з таго свету. Таму з 1944 па 1947 год Мікола Мікітавіч з цяжкасцю адыходзіў ад таго атручвання. Лячыўся, служыў, а ў 1945 годзе нават атрымаў магчымасць пабываць дома ў Місунах, што на Мядзельшчыне. А пра службу на аб'екце № 501, аб сур'ёзным атручванні павінен быў маўчаць і зносіць зневажальныя мянушкі накшталт "тылавога пацука"...

Мікола Мікітавіч узнагароджаны медалём "За перамогу над фашысцкай Германіяй", "За доблесную працу ў гады ВАВ". І толькі "перабудова" зняла з іх сакрэтнасць, ураўняла ў правах і льготах з франтавікамі. А вогненная рана ад іпрыту, якую ён атрымаў у газавай душагубцы, баліць і да сёння цяжкім успамінам аб катаржнай службе ў падземным гахасховішчы, якое было сур'ёзным "наморднікам"-уціхамірванем для фашысцкай Германіі. Стварылі гэты "наморднік" і беларусы-заходнікі.

P.S. Пасля капітуляцыі фашысцкай Германіі саюзнікам дасталіся горы бочак з АР. Значыць, немцы мелі, што прымяніць супраць СССР. А пра ўзаемадачыненні СССР і Вялікабрытаніі па праблемах АР можна даведацца з кнігі "Перапіска старшыні СМ СССР з прэзідэнтамі ЗША і прэм'ер-міністрамі Вялікабрытаніі ў час ВАВ 1941-1945 г.г." (Масква 1957 год).

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

# Маладзечанскі Жак Іў Кусто

**Заўжды з асаблівай нецярплівасцю чакаю лістоў з Калінінграда, з Музея Сусветнага акіяна. Ведаю: нешта зноў дагэтуль невядомае раскажуць музейшчыкі пра Арцемія Васільевіча Іванова. Пра маладзечанца, вядомага вучонага, легенду савецкай, а мо, нават і сусветнай навукі!.. Нястомны даследчык жывёльнага свету акіяна, як Жак Іў Кусто. А нарадзіўся Іваноў у Маладзечне ў 1906 годзе.**

Вядома, што бацька працаваў доктарам. Арцемій закончыў біялагічнае аддзяленне Ленінградскага універсітэта. Студэнцкую практыку праходзіў на Мурманскай біялагічнай станцыі. Ужо тады вызначыўся ў цікаўнасці да беспазваночных, якія жывуць на марскім ці акіянічным дне. Працаваў на шхуне "Мікалай Кніповіч". У 1930 годзе наш зямляк едзе пад Уладзівасток. Займаецца навукай на Ціхаакіянскай навукова-прамысловай станцыі. Удзельнічае ў экспедыцыях па Ахоцкім, Берынгавым і Чукоцкім моры.

Пасля Арцемій Іваноў вяртаецца на работу ў заалагічны інстытут Акадэміі навук СССР. Свае папярэднія пошукі, матэрыялы экспедыцый абагульняе ў "Атласе анатоміі прамысловых беспазваночных далёкаўсходніх мораў" (выдадзены ў 1949 годзе). І цяпер гэтым унікальным даведнікам карыстаюцца як вучоныя-біёлагі, так і прамысловыя здабытчыкі акіянічных багаццяў.

Да меркаваннаў, навуковых высноў маладога вучонага прыслухоўваюцца. У галіне эвалюцыйнай марфалогіі, у веданні эмбрыялогіі і эвалюцыі беспазваночных дасведчанасць Арцемія Іванова набывае ўсё большы аўтарытэт. З асаблівай ахвотай наш зямляк удзельнічае ў экспедыцыях акіянаграфічнага судна "Віцязь" (цяпер яно знайшло прытулак у Музеі Сусветнага акіяна ў Калініградзе). Пяць разоў хадзіў у паходы з "Віцязем" Іваноў. І шторазу навуковы багаж вучонага павялічваўся. Светапогляд, мысленне багацелі, станавіліся істотна шырэйшымі. Вядома, спрыяў гэтаму папярэдні вопыт, спрыяла здольнасць ісці наперад, не спыняцца. Але і "Віцязь", умовы працы на навуковым-даследчым судне – таксама. Не выпадкова ж высокую ацэнку магчымасцям "Віцязя" выдалі ганаровыя наведвальнікі судна – Жак Іў Кусто і Тур Хеердал.

Арцемію Іванову належыць адкрыццё жывёл-паганафораў. Да Іванова ніхто ў навуцы не ведаў пра іх існаванне. Хто ж гэта такія – загадкавыя паганафоры? Асноўныя наведвальнікі глыбакаводных гідратэрмаў. У трубках з хітыну і бялку. Наверх высунуты толькі жабры, якія нагадваюць бараду. Адсюль і назва: "Паганафоры – тыя, якія нясуць бараду".

У 1960 годзе была выдадзена манаграфія А.Іванова "Паганафоры". У 1961 годзе Арцемія Васільевіча ўшанавалі званнем лаўрэата Ленінскай прэміі. Усяго 19 радкоў адведзена вучонаму-земляку ў "Беларускай энцыклапедыі". На тое яна і энцыклапедыя, каб быць лаканічнай. Але так хочацца, каб як мага шырэй ведалі ў Беларусі пра навуковы, жыццёвы лёс земляка... Яшчэ ў 1959 годзе Іванова прынялі ў правадзейныя члены Германскай акадэміі прыродазнаўчых навук. У 1981 годзе Арцемія Васільевіча абралі акадэмікам АН СССР. Здабыткі Іванова адзначаны залатым медалём імя І.І.Мечнікава.

Даследчык маштабу Арцемія Іванова – унікальная фігура ў галіне прыродазнаўства ўвогуле. І чаму, прыкладам, не ўсталявала беларуская акадэмічнай навуцы прэмію альбо



**Арцемій Іваноў. Акадэмік АН СССР, лаўрэат Ленінскай прэміі. Нарадзіўся ў Маладзечне 18 мая 1906 года ў сям'і чыгуначнага ўрача. Акадэмік. Памёр у Пецярбургу 22 студзеня 1992 года.**

Фота з сайта Прэзідыума Расійскай акадэміі навук.

ганаровы медаль у знак памяці вучонага-земляка? А можа прэмія імя Іванова будзе ўсталявана ў Маладзечне для заахвочвання юных навукоўцаў?

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

 

■ СУВЯЗІ

# Жыллё замест Чарнобыля

**МЯДЗЕЛ. Амаль для 1000 немцаў Мядзельшчына стала другой радзімай.**

## Знаёмства і сустрэча

Знаёмства з Беларуссю пачалося ў 1990-м годзе. Тады нямецкія аматары-веласіпедысты адправіліся ў тур па Беларусі. А, можа, і яшчэ раней, калі ўспыхнуў "беларускі" Чарнобыль. Гэтая вестка амаль адразу дайшла да Германіі. Ад нарвежцаў пачулі, што і ў іх краіне павысіўся радыяцыйны фон. На Нямеччыне правялі інструктаж для жыхароў, як весці сябе ў аварыйнай сітуацыі. Тое, што немцы ўбачылі на сапраўды небяспечнай тэрыторыі, для іх аказалася жахам. Яны сустракаліся з беларускімі жыхарамі і ліквідатарамі аварыі. Немцаў уразіла адна з мінскіх бальніц, дзе лячылі больш за 300 пацярпелых.

Іншаземцы вырашылі, што людзям можа дапамагчы перасяленне ў чыстыя раёны. Кіраўнік нямецкай групы, што ўваходзіць у склад дабрачыннай арганізацыі "Дамы замест Чарнобыля", Ірмгард фон Бодэльшвінг сёлета ў чарговы раз прыехала ў Занарач. Яна гаворыць, што яшчэ раней немцы трымалі сувязь з мясцовым калгасам.

Так, у 1993 годзе ў Занарачы з'явіліся першыя эклагічна чыстыя дамы з гліны і дрэва, пабудаваныя немцамі. І ўрэшце – пасёлак Дружны. Беларусы таксама дапамагалі. А дакладней – самі перасяленцы. Гэта адна з умоў праекта: яны павінны два гады ўдзельнічаць у будаўніцтве. Праз год сям'я засяляецца ў новы дом, які становіцца ўласнасцю пры яшчэ адной ўмове, што на працягу 10 год сям'я перасяленцаў не мае права прадаваць дом. Ірмгард гаворыць, што гэтае жыллё лічыцца больш танным, чым звычайнае. Адзін дом каштуе 25-30 тысяч Еўра. Неабходныя будматэрыялы (акрамя гліны і драўніны) купляюць на нашых базарах. Прычым гандляры не хочуць браць Еўра. А гэта б знізіла выдаткі іншаземцаў. Немцы разумеюць, што беларусам дамы ўвогуле не па кішэні.



Занарач. Кіраўнік нямецкай групы Ірмгард фон Бодэльшвінг вельмі любіць разглядаць дзіцячыя малюнкі, з якіх хоча зрабіць каляндар.

Фота Ірыны РАБУШКІ

31 чарнобыльская сям'я знайшла сабе прытулак у Занарачы. За 13 гадоў яна стала для іх другой радзімай. Здараецца, што складаюцца і беларуска-нямецкія сем'і. Іншаземец знайшоў сабе жонку з мясцовых, і яны пераехалі ў Германію.

## Аздараўленне

Прыязджаюць у Занарач і на аздараўленне матулі з дзецьмі з Чарнобыльскай зоны, якое таксама наладзілі іншаземцы. Яны надаюць вялікую ўвагу распарадку дня і здароваму харчаванню. У першай палове дня жанчыны могуць хадзіць на курсы кройкі і шыцця. Ім вельмі падабаецца прысвячаць раніцу сабе. Дзеці ў гэты час таксама не без справы. Другая палова дня звычайна не занятая планавымі мерапрыемствамі. "Так задумана наўмысна, – кажа Ірмгард, – каб маці і дзеці маглі прысвяціць час адзін аднаму. Увечары немцы і беларусы збіраюцца разам патанчыць, паспяваць, пагуляць. Кожны дзень, нават у дождж, ёсць чым заняцца. Хочаш – тэніс пад дахам, хочаш – мяч ганяй, хочаш – на веласіпедзе ездзі. Дарэчы, немцы прывезлі сюды 75 веласіпедаў.

## Праблемы

У першую чаргу яны звязаны са здароўем дзяцей пасля Чарнобыльскай аварыі. Але не таму, што беларускія доктары не ўмеюць лячыць, заўважае Ірмгард, а таму, што няма грошай на лячэнне. У 10-гадовай дзяўчынкі баляць ныркі. Беларускія і нямецкія доктары незалежна адзін ад аднаго паставілі аднолькавы дыягназ. Дзіцяці варта прымаць штодзень па 5 таблетак. Гэта што неабходна для жыцця. У Беларусі іх купіць складана, бо вельмі дорага. Таму дзяўчынка часта ляжыць у бальніцы, каб там іх атрымліваць танней. Таблеткі дарагія, і ў нас, гаворыць Ірмгард, 100 долараў хапае на 20 дзён. Але для Беларусі гэта зусім непрымяральна.

Іншая хвароба ў 11-гадовай дзяўчынкі. Яна пакутуе на захворванне сасудзістай сістэмы, пашкоджаны ўсе органы, асабліва баліць страўнік. Дзяўчынка можа памерці ў любы момант. Але цікава, калі яна прыязджае ў Занарач, боль сціхае.

## Сімвал жыцця

Іншаземцам было вельмі важна паставіць у Занарачы сімвал жыцця. Смвалаў атрымалася ажно два. Гэта ветраэнергетычныя ўстаноўкі, ці ветракі. Яны адны з першых у Беларусі. Немцы дабіліся, каб энергію, што падаюць ветракі, падключылі ў агульную энергасетку канцэрна Белэнерга. Грошы за прададзеную электраэнергію выкарыстоўваюць для рэалізацыі іншых сацыяльных праектаў. Да прыкладу, сёлета ў занарачскім дзіцячым садзіку памянялі вокны. Пабудавалі ў вёсцы і цэх па вытворчасці пліт з чароту.

## Беларускія пытанні да іншаземкі

Іх я задала ўжо потым, пасля так званай асноўнай часткі гутаркі.

– Ці каштавалі нашыя гарэлку і сала?

– (Ірмгард моўчкі паказала рукой. Я азірнулася. І па ўбачаных бутэльках зразумела адказ). Гут, харашё. У нас гарэлку не п'юць. Але і ў вас ёсць смачная, ёсць і не вельмі. Сала не каштавала – я вегетарыянка.

– Напэўна ў медыцынскіх мэтах накшталт расціраня, спірт ці іншы алкагольны напой выкарыстоўваеце.

– А як? Не. Ногі, дык мы закручваем хусткамі, змочанымі цёплай вадой, потым сухімі, каб нагам было цёпла. Гавораць, гэтак тэмпература і хвароба выцягваецца.

– А ў лес хадзілі? Чула, што ў вас ягады збіраць не прынята.

– Так. Мы ў Германіі ў лес па ягады не ходзім. Але тут так прызвычаілася. Асалода!.. Больш за ўсё суніцы падабаюцца.

– Калі з'язджаеце дадому, па Беларусі сумуеце, ці, можа, нават не ўспамінаеце?

– (Прыклаўшы руку да сэрца). Верыце, гэта мая другая радзіма. І без Беларусі я ўжо не магу.

Так, як і іншыя немцы, што прыязджаюць сюды кожнае лета ў адпачынак, каб сустрэцца з беларусамі і дапамагчы ім.

**Ірына РАБУШКА.**

# АК'авец Лоўкіс

**У ноч з 14 на 15 сакавіка 2003 года ўшчэнт згарэў архіў Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі Саха (Якуція) у горадзе Якуцку.**

Сярод іншых спраў знаходзілася асабістая справа №11721 Лоўкіса Уладзіміра Андрэевіча, 1922 года нараджэння. З яе бачна, што «8 красавіка 1947 года ў г.Вілейка, ваенны трыбунал войск МУС Маладзечанскай вобласці без удзелу прадстаўніка абвінавачання і абароны, разгледзеў ў закрытым судовым паседжанні справу па абвінавачанні Лоўкіса У.А. Ён нарадзіўся ў в.Жарскія, а жыў у в.Лапуны Камайскага сельскага савета Пастаўскага раёна Маладзечанскай вобласці, беспартыйны, паляк, адукацыя 4 класы, не жанаты, які ў Савецкай Арміі ў партызанах не служыў, працаваў на сваёй гаспадарцы, раней не судзімы».

Трыбуналам было выяўлена, што «Лоўкіс у перыяд часовай нямецка-фашысцкай акупацыі на працягу адзінаццаці месяцаў, з лета 1943 да ліпеня 1944 года, добраахвотна служыў намеснікам солтыса Навасёлкаўскай грамады, у якую ўваходзіла чатыры вёскі: Рамейкі, Скарпаўцы, Баяры, Папоўцы ды некалькі хутароў Пастаўскага раёна Маладзечанскай вобласці. Лоўкіс выганяў жыхароў на розныя работы для немцаў. Збіраў сельгаспрадукты і цёплыя рэчы на патрэбы арміі захопнікаў, таксама, узімку 1943-1944 гг. сумесна з паліцыяй выязджаў на барацьбу супраць савецкіх партызанаў, а ў сакавіку 1944 года страляў па савецкіх партызанах, якія праязджалі праз вёску Скарпаўцы, у выніку чаго адбіў у іх аднаго каня, якога здаў у нямецкі гарнізон мястэчка Камаі.

У чэрвені 1943 года, таксама добраахвотна, уступіў у антысавецкую польскую нацыяналістычную арганізацыю «Армія краёва», брыгада «Нарач», даў прысягу на вернасць службы былому польскаму эміграцыйнаму «ўраду» ў Лондане, атрымаў мянушку «Кжою» і перадаў аднаму з верхаводаў гэтай банды, нейкаму «Цідзік» Браніславу, шэсцьдзесят баявых патронаў, дзве гранаты і адзін замок да вінтоўкі, а ў чэрвені 1944 года «ўцягнуў» у «Армію Краёву» В.Г.Ваўжыцкага, В.Б.Рамейку, у верасні 1944 года у вёсцы Лапуны Пастаўскага раёна ўвечары абстраляў з аўтамата легкавую машыну, у якой ехаў былы ваенком Пастаўскага райваенкамата маёр Міхееў і іншыя асобы. Ухіліўшыся ад службы ў Савецкай Арміі, і пасля дызертырства са службы Польскай Арміі Лоўкіс перайшоў на нелегальнае становішча, маючы пры сабе пісталет і нямецкую баявую вінтоўку, і летам 1945 года перадаў Восіпу Рамейку нямецкую вінтоўку №9936 і 100 баявых патронаў для працягу ўзброенай барацьбы з Савецкай уладай за панскую Польшчу ў межах 1939 года».

На выснове выкладзенага трыбунал прысудзіў Лоўкісу па артыкуле 63-1 і 76 крымінальнага кодэкса БССР пазбаўленне волі ў папраўчым працоўным лагеры тэрмінам на дзесяць гадоў з наступным паражэннем у правах па пунктах а, б, в, г, артыкула 34 БССР на пяць гадоў з канфіскацыяй асабістай маёмасці.

25 сакавіка 1948 года Лоўкіс прыбыў у Індлаг, а 20 верасня 1949 года яго адправілі ў Берлаг, адкуль ён быў «вызвалены 25 лютага 1954 года з лаг/атр. №7 упраўай Асаблага №5 МУС СССР на выснове загада МУС СССР №00874 ад 8 кастрычніка 1953 года ў ссылку ў раён Калымы бестэрмінова» і таму ўзяты «пад нагляд МУС».

Знаходзячыся на пасяленні ў пасёлку Альчан Аймяконскага раёна ЯАССР Лоўкіс падаў заяву, як таго ўжо дазваляў закон, на выезд у Польшчу, дзе ў Варшаве жыла ягоная цётка Эльжбэта Жамойць. «Зверху» адказалі: «Улічваючы, што бацька Лоўкіса У.А. Андрэй Францавіч Лоўкіс, 1891 года нараджэння, жыве па месцы нараджэння ў вёсцы Лапуны Маладзечанскай вобласці, а сам ён да арышту 23 лістапада 1946 года меў магчымасць рэпатрыіравацць у Польшчу, таму зараз у рэпатрыяцыі ў Польшчу лічым патрэбным яму адмовіць».

Але ўсё ж такі праз нейкі час Уладзіміру Лоўкісу дазволілі выезд у Польшчу, што ён і здзейсніў, выехаўшы з пасёлка Усць-Нэра Аймяконскага раёна ЯАССР.

**Падрыхтаваў Алесь БАРКОЎСКІ.**

# «Не давайце святыні псам»

## Да 570-ых угодкаў Груздаўскай праваслаўна-уніяцкай рыцарскай царквы.

На мінулым тыдні мне трапіўся стары Віленскі фотаздымак: пад Вострай брамай чарга ўкленчаных кабет у белых хусцінках – прыйшлі ахвяравацца цудатворнаму абразу Маці Божай Вострабрамскай. "1939 год" – пазначана ўнізе. Год пачатку II Сусветнай вайны. У Вільні, нашай старажытнай сталіцы, пад гэтай святыняй кабеты прасілі паратунку. За "польскім" часам. Не так даўно скончыўся час "рускі". Час расстралаў, шыбеніц і турмаў. "Сібірскі" час. Надыходзіць "гітлераўскі" час – ізноў шыбеніцы, спаленыя вёскі, вываз у Нямеччыну. Потым "сталінскі" час – расстрэлы, катаванні, здзекі. "Калымскі" час. І вось ужо мілая Вільня не наша, і на любай Смаленшчыне "рускі" час, а на Беласточчыне — "польскі".

А з Вострай Брамы глядзяць на гэта вочы спрадвечнай Панны, якая нарадзіла нам Бога-Збавіцеля! Таго неўміручага вершніка на белым кані, "які па-праўдзе судзіць і вае." Дзякуй Богу!

Ноччу не спалося. Успомнілася дзяцінства, маці, бабуля ў белай хусцінцы. І раптам як сполах: я сярод жанчын і дзяўчаток у белых хусцінках, ідзем на каленях па траве да цудатворнага абраза. Вось святар, малады, мужны і прыгожы, падымае над галавой скрутак і ўрачыста абвяшчае незнаёмае мне слова: "Летапіс". Наш летапіс. Стрыманыя, мудрыя, цёмныя вочы глядзяць з абраза. Вочы Маці. Вочы маёй душы. Цудатворныя абразы... Іх у нас, беларусаў, некалькі: Вострабрамскі, Жыровічскі, Будслаўскі і Груздаўскі. Тут у нас пад Маладзечнам за 8 кіламетраў на поўдзень старажытны Кіеўскі шлях у Груздаве раздзяляецца на 3 шляхі: адзін ідзе з Маладзечна праз Вязавец-Груздава на Валожын і на Кіеў, другі – праз Груздава, Капачы на Валожын і на Кіеў, а трэці за Капацкай грэбляй адгаліноўваецца на Смаленск і далей на Маскву і Уладзімір. Вось пад Груздавам усё і сталася. Але даведаўся я аб гэтай трагедыі ўжо будучы студэнтам гістфака Белдзяржуніверсітэта. Сам яе перажыў і перажываю, бо яна яшчэ не скончылася. Але найперш былі мае дзіцячыя даследаванні.


Груздаўская праваслаўна-уніяцкая рыцарская царква.

### 1950 год

Суседка крычыць на карову, якая ўбілася ў буракі: "Прыблуда! Каб ты спрахла! Каб цябе па Чырвонай валоцы валаклі!"

Той жа год.

— Бабуля, ты не ведаеш, што гэта за Чырвоная валока?

— Ды гэта поле такое паміж Капачамі і Аборкам, пад Груздавам. Камяністае поле. Крывёю палітае, страшнае. Даўней, як аралі яго, дык то меч выаруць, то навершнікі ад дзідаў, а то і ржавы шалом. Сама бачыла. Мы, дзеці, надта баяліся гэтага поля, адны не хадзілі туды.

### 1953 год

Маці: "Не ведаеш, што такое летапіс? А памятаеш, як на Пятра ў Груздаўскай царкве з табой былі? Памятаеш, як святар скрутак старых папер паказваў і з іх чытаў гісторыю нашай царквы і народу? Памятаеш, чытаў, што на Чырвонай валоцы адбылася страшэнная сеча беларусаў з беларусамі? Братазабойная сеча. Па шчыкалаткі ў крыві сталі, але біліся цэлы дзень! Толькі вечарам спужаліся смерці і разышліся. Дык вось у гэтай бітве самы харобры князь, знаны ва ўсім свеце ваяр, князь Андрэй быў забіты, але на саракавы дзень з'явіўся цэлы і здаровы ў Вільні. Памятаеш, мы там былі? Дык вось, яго ад смерці Маці Божая вызваліла. Тая, якую на цудатворным абразе ты бачыў, калі пад ёй разам са мною ішоў. Гэта цяпер народу тут не многа. А за "польскім" часам межы былі адчынены, з усёй Еўропы кабеты пешшу ішлі, каб Маці Божай Груздаўскай ахвяравацца. Каго тут толькі не было: італьянскія каталічкі, праваслаўныя балгаркі, нават амерыканкі. Усе, хто страціў сваіх мужоў і сыноў падчас войнаў. Такім чынам, гэта ёсць наша ваенная царкоўка, рыцарская. Яе сам князь Андрэй паставіў. І абраз гэты ў ёй усталяваў.

Пытаешся, дзе латапіс? Бачыў царкоўку? Вы паўз яе ў школу ходзіце. Што там цяпер? Калгасны склад. Агіда пустэчы. Абраз цудатворны энкавэзісты кудысьці вывезлі. А летапіс? Летапіс... Адно спадзяванне на айца Генадзя. Ён тутэйшы, маркаўскі, сапраўдны святар. Сем моў ведае і нікуды за мяжу не з'ехаў. Любіць Радзіму. Патрыёт! Брат яго, Анатоль, ну той, які з тваёй цёткай ажаніцца хацеў, ды партком не дазволіў, — матэматык. Вучоны сакратар Акадэміі навук. Кіруе вучонымі. Я думаю, што яны нешта прыдумалі.

### 1964 год

Лаўрэнцій Абэцэдарскі, прафесар, былы загадчык кафедры гісторыі БССР БДУ.

На лекцыі: "Что ты, Тимохин, с этой летописью. Да и нету её. Что там литовские князья вытворяли, нам дела нет. Ты лучше русских историков читай. Например, Соловьёва."

"І Мураўёва-вешальніка" — шэптам жартуе мой сябра ўкраінец Лёня Курчанка.

Той жа год.

Уладзімір Караткевіч глядзіць праз келіх з віном на сонца. Шэптам: "Летапісы, летапісы... А ці ведаеш, Лявоне, колькі іх знішчылі і ў "рускі", і ў "польскі" час, каб даказаць, што ў нас няма сваёй гісторыі, свайго мінулага і не будзе свайго будучыні? І перапісалі гісторыю, і падручнікі такія выдалі. А ты: летапіс, летапіс! Частка з іх за сям'ю пячаткамі ў Расіі ды Польшчы. Але вось ты пытаешся, значыць на ўсё Божая воля. О, колькі крыві ў нашым келіху! Яна кліча. Ідзі на кліч!"

Паставіў келіх.

"А ведаеш, што патрыёты часам хавалі свае святыні ў самых нечаканых месцах? Напрыклад, паўстанцы-касцюшкаўцы ўцякалі ад рускіх не на захад, а на ўсход. Хаваліся ў лясах Браншчыны, дзе іх ніхто ў глухіх вёсках не шукаў. Мо, там што ёсць?"

### 1986 год

Генадзь Каханоўскі: "Ты маеш рацыю ў тым, што бітва пад Груздавам была ў 1433 годзе. Аб гэтым ёсць звесткі ў польскай літаратуры. На жаль, біліся паміж сабой беларусы. Бо родны брат пакойнага польскага караля беларуса Ягайлы Свідрыгайла са сваім войскам і ў хаўрусе з крыжакамі хацеў зваяваць свайго роднага пляменніка Жыгімонта, таму што той разам з палякамі дабіваўся вялікакняскай пасады. Гэта была жудасная сеча.

Летапіс? Ведаю, быў, але дзе дзелі? Трэба ж было даказаць, што да "воссоединения с Россией" мы былі дзікім і цёмным народам, каб апраўдаць рускую акупацыю, кроў паўстання Касцюшкі ў 1794 годзе і віселіцы для Каліноўскага і яго паплечнікаў. Але ж мы пра гэта ведаем насуперак лёсу".

### 1994 год

Мікола Ермаловіч: "Ты кажаш пра шчаслівы лёс нашага Смаленскага князя Андрэя Саковіча. О, пра яго многа ў Еўропе пісалі. Асабліва ў рыцарскіх хроніках. Ён быў знаным рацарам, чэмпіёнам усіх тагачасных рыцарскіх турніраў. Узбыхалі па ім многія жанчыны. Статны, мужны, праўдзівы, храбры, сапраўдны беларус-крывіч. І раптам гэтая недарэчная крывавая бойня на Чырвонай валоцы пад Маладзечнам 15 ліпеня 1233 года. Уцалела мала. Ты ведаеш, Свідрыгайла разам з рыцарамі-крыжакамі ўцёк у Полацк, там і ўмацаваўся. Жыгімонт з палякамі паплёўся ў Вільню, залізваць раны. А хто яны для Еўропы? Чарговыя ўладныя прайдзісветы, у якіх ні гонару, ні сумлення няма. Што для іх жыцці падначаленых, калі яны братоў родных ды бацькоў душылі і труцілі дзеля ўлады? Ды так было заўсёды. І цяпер так.

Але вось князя Андрэя, рыцара-адзінаборца, сімвала годнай мужнасці не стала. Нават цела не знайшлі. Еўропа здрыганулася, шчыра засмуткавала. Асабліва кабеты. І не толькі прынцэсы і каралеўны. Усе. Бо тады быў час рыцарскіх раманаў і геройскіх учынкаў, вернасці да смерці. У цэрквах і касцёлах служылі паніхіды па доблесным рыцары. І раптам маланкай праносіцца чутка аб тым, што на саракавы дзень князь абяўляецца жывым і здаровым. Уваскрос? Не! Не памёр, бо таго не захацела сама Божая Маці.

Пазней, на балі, які ён даваў для еўрапейскага рыцарства, князь расказаў, што быў ашаломлены, страціў прытомнасць і, калі на золку вылез з-пад гары акрываўленых нябожчыкаў, якіх сам ды яго збраяносцы пабілі, то думаў, што трапіў за гэта ў пекла. Смурод ад ручаёў крыві і вантробаў, горы мёртвых людзей і коней, рудая і слізкая ад крыві трава, і над усім гэтым – крывава-чырвоны золак. Князь пайшоў на сонца. Падаў, падымаўся. З латаў ён выслізнуў яшчэ пад трупамі. Ужо ні на што не спадзяваўся. Дакульгаў да нейкага дрэва і раптам бачыць: на ім абраз Маці Божай. З апошніх сіл ірвануўся да яго, узяў у рукі, прыпаў вуснамі і... страціў прытомнасць.

Мы, гісторыкі, ведаем, што ў тыя далёкія рыцарскія часы на Беларусі ні адна бітва не абыходзілася без таго, каб не адслужыць паніхіду па тым, хто будзе забіты. Спачатку слухалі імшу, прасілі прабачэння за грахі адзін у аднаго і ў Бога. Прычашчаліся і, ужо як сабаваныя смертнікі, кідаліся ў бойку з ворагам. Пра абразы забываліся. Вось да аднаго з такіх забытых абразоў Маці Божай і прыпаў знепрытомлены князь Андрэй. Далей усё ішло сваім чынам. Раніцай сяляне з прылеглых вёсак (Груздава, Пузэлі, Палачаны, Капачы, Аборак), месцічы з Маладзечна, местачкоўцы з Лебедзева, Хажова і Хоўла прыехалі капаць ямы і хаваць у іх нябожчыкаў. За гэта яны мелі права скарыстаць іхнія кішэнныя і капшуковыя грошы. Падцягнулі да ямы і князя Андрэя, без шалома, без княжых знакаў, хацелі скінуць, але ў закашчарэлых руках быў абраз. Абраз у яму? Нельга! Сталі адшчарэпліваць пальцы, а рукі... рукі цёплыя. Абраз уратаваў, праз Бога.

Пасля двухтыднёвага балю князь выправіўся ў Смаленск рубіць царкву ў гонар сваёй цудоўнай уратавальніцы, а рыцары выправіліся додому, і іх расповед пра цуд над Маладзечнам стаў незабыўным пры дварах еўрапейскага рыцарства. І калі са Смаленска на конях уючным спосабам была прывезена зрубленая там царква, яе паставілі побач з Чырвонай валокай у напамін аб той грэшнай бітве, а ў царкве князь усталяваў цудоўны абраз, які ўратаваў яму жыццё. І з гэтага часу пацягнуліся ў Груздава з блізкіх і дальних краёў пілігрымкі-кабеты, каб прасіць нябесную Заступніцу вярнуць сына, мужа, брата – колькі войнаў прагрымела!

Пра гэта ёсць сёе-тое ў многіх заходніх хроніках. А летапіс. Наш летапіс. Трэба шукаць".

### 1997 год

Айцец Генадзь Яблонскі, настаяцель сабора ў Гародні.

— Ты – Лёня?

— Так, я.

— Пазнаў. Я памятаю, як ты ў сваё 5 гадоў любіў з-пад стала расказваць мне доўгія вершы і байкі. Хто ты цяпер?

— Гісторык, пішу вершы.

— О, значыць, не змяніўся. Дзе твае цудоўныя бабулі?

— Памерлі.

— А маці?

— Памерла.

— А цёткі?

— Таксама.

— Радню шукаеш?

— Так?

— А каго?

— Летапіс.

— Той?

— Той самы. Баюся спазніцца.

— Не спознішся. Летапісы не гараць. Ты думаеш, я не ведаў тады, што гэтую царкву зачыняць? Абавязкова зачыняць, а летапіс вывезуць у Маскву, і ён знікне, як знік крыж святой Еўфрасінні Полацкай, як зніклі старадрукі і нават Слуцкія паясы. Усё ў Маскве. Што знішчаць, а што схаваюць і не вернуць. Трэба было ад іх хаваць. І я папрасіў брата Толю, каб ён схаваў. Пытаешся, дзе? У Акадэміі Навук, у велізных заблытаных архівах. Ён ведаў, дзе. Больш ніхто. Ды, на жаль, памёр. Але ж летапісы не гараць. Знойдуць. Не час яшчэ.

### 15 ліпеня 2003 года
### Замест эпілога

Чырвоная валока. Навакольныя вёскі: злева Капачы і Бяртошкі, справа Аборак, Палачаны, Пузэлі. На ўсходзе і за капацкай грэбляй – шлях на Маскву. Што з нашага вернецца адтуль? А мо, нічога. На Чырвонай валоцы побач са старажытнымі могілкамі некалі ўлады пабудавалі вялікі хлеў для кароў. Цячэ гнаёўка. Брыдка і паскудна. Вяртаюся да царквы. Мясцовыя людзі адбудавалі яе на свае грошы. Тут абраз. Ціха, утульна. Даглядаюць гэтую адзіную ў Еўропе драўляную рыцарскую царкву сям'я Любові і Юзэфа Туронкаў. Ён – з каталікаў, яна – з праваслаўных. Так і павінна быць. Трэба разам быць у Хрысце. Успамінаюцца словы апостала Паўла: "Хіба ж раздзяліўся Хрыстос?!"

Але ўсё роўна трывожна. Чуў у Маладзечанскай бібліятэцы словы аднаго былога жыхара вёскі, які, кінуўшы карову, пайшоў пасці "духоўных авечак": "У нас в Груздове икона замироточила. Так, чуть-чуть". Вось чаму не ідуць з сэрца вечныя Божыя словы-запавет: "Не давайце святыні псам" (Мацвей, 7 радок, 6 верш). Гэта нам, маладзечанцам, запавет. Усім хрысціянам, а не толькі сям'і Туронкаў.

PS. Пасля збудавання Груздаўскага храма беларусы ніколі больш не ладзілі грамадзянскай ці рэлігійнай барацьбы між сабой. Дзякуй Богу.

**Лявон ЦІМОХІН, гісторык, каардынатар міжнароднай асацыяцыі выпускнікоў БДУ.**

 



■ ФУТБОЛ, АНАЛІЗ

# Маладзечанскі «рэцэпт»

**Сітуацыя, у якой зараз у міжкругавай паўзе апынуўся ФК "Маладзечна-2000", можна лічыць традыцыйным маладзечанскім рэцэптам арганізацыі клубнага футбольнага жыцця. Тое ж самае было год назад летам, падобнае становішча назіралася і напрыканцы 90-ых гадоў. Спачатку футбалістам абяцаюць такія сумы грошай, якія потым ніхто не ў стане выплаціць.**

## Хто будзе кіраваць?

Па стане на раніцу серады не было афіцыйных паведамленняў па кандыдатурах новага кіраўніцтва клуба і новага галоўнага трэнера. Абмеркаванне гэтых пытанняў ішло ў гарвыканкоме. Каманда працягне выступаць. Будуць і крыніцы фінансавання. Згодна прэзідэнцкаму ўказу "Аб дадатковых мерах дзяржаўнай падтрымкі футбольных клубаў" падатковыя ільготы ў Маладзечне могуць атрымаць наступныя прадпрыемствы: "Мінскі мэблевы цэнтр", "Маладзечнамэбля", "Белхол", "Канфа", "ІВКАН".

Другі круг распачнецца ўжо ў наступныя выхадныя, і, калі каманду пакінуць з дзесятак гульцоў, амаль не застанецца часу, каб запрасіць новых, не кажучы ўжо пра трэніровачны працэс. Цяпер апошняе месца ў табліцы, няхай і з невялічкім адставаннем (1-2 ачкі), ставіць маладзечанцаў у разрад найбольш верагоднага кандыдата на вылет у першую лігу. Нагадаем, што пакінуць вышэйшы свет па выніках чэмпіянату 2 каманды.

У гэтым становішчы самым дрэнным будзе, калі ўсе прычасныя да жыцця клуба палічаць задачу захавання месца ў лізе амаль невырашальнай і тым самым дадуць новаму кіраўніцтву клуба і новаму галоўнаму трэнеру індульгенцыю на "вылет".

## Хто будзе гуляць?

З 22-х заяўленых напачатку сезона гульцоў ужо 13 атрымалі ад АБФФ (асацыяцыя "Беларуская федэрацыя футбола") статут свабодных агентаў, якія без кампенсацыі па дзеючым кантракце (бо ўмовы кантракту з боку клуба не выконваюцца) могуць пакінуць каманду. З дзевяткі тых, хто пакуль застаецца, не звярталіся ў АБФФ А.Альховік, Дрозд, Мятліцкі, Крывіцкі, Лабанаў, не з'явіліся на пасяджэнне камісіі (таму іх звароты не разглядаліся) Маляўка і Галенка, адазвалі свае заявы Дараховіч і Сцепановіч.

З 13 "адказнікаў" большасць, напэўна, разам з былымі трэнерамі перабяруцца ў першую лігу пад крыло Вячаслава Акшаева ў МТЗ-РІПА, які цяпер ідзе на першым месцы. Хтосьці, магчыма, зможа замацавацца ў клубах вышэйшай лігі.

### Табліца

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Тарпеда-СКА | 15 | 10 | 4 | 1 | 25-9 | 34 |
| 2. Гомель | 15 | 10 | 4 | 1 | 23-5 | 34 |
| 3. Дынама (М) | 15 | 10 | 2 | 3 | 32-11 | 32 |
| 4. Шахцёр | 12 | 7 | 3 | 2 | 29-8 | 24 |
| 5. БАТЭ | 15 | 6 | 6 | 3 | 31-16 | 24 |
| 6. Тарпеда (Ж) | 14 | 6 | 4 | 4 | 20-12 | 22 |
| 7. Нафтан | 15 | 5 | 3 | 7 | 16-20 | 18 |
| 8. Дарыда | 15 | 5 | 3 | 7 | 17-22 | 18 |
| 9. Днепр-Трансмаш | 15 | 4 | 6 | 5 | 20-20 | 18 |
| 10. Дынама (Б) | 15 | 4 | 5 | 6 | 15-24 | 17 |
| 11. Нёман | 15 | 3 | 6 | 6 | 12-20 | 15 |
| 12. Лакаматыў (М) | 14 | 3 | 4 | 7 | 11-20 | 13 |
| 13. Славія | 14 | 3 | 4 | 7 | 16-34 | 13 |
| 14. Зорка-ВА-БДУ | 15 | 3 | 3 | 9 | 12-35 | 12 |
| 15. Белшына | 15 | 2 | 6 | 7 | 19-26 | 12 |
| 16. Маладзечна-2000 | 15 | 2 | 5 | 8 | 9-25 | 11 |

Бамбардзіры: Ю. Мархель (жодзінскае "Тарпеда") – 9; Бяганскі, Стрыпейкіс (абодва – БАТЭ), Карніленка (мінскае "Дынама") – па 8.

Маладзечанцы, на жаль, забілі менш за ўсіх галоў (столькі ж, колькі адзін Мархель): М.Альхавік – 4, Макрыцкі – 3, Кухлей і Лявончык – па 1.

## Вынікі першага круга

У матчах з камандамі першай шасцёркі набрана толькі 1 ачко ў Гомелі, ды і тое ў выніку вялікага шанцавання і выдатных дзеянняў галкіпера Сцепановіча. 5 з гэтых матчаў прайшлі на выездзе, так што асаблівых прэтэнзій прад'яўляць нашай камандзе не мае сэнсу. Рэальны шанс зачапіцца за ачкі яшчэ быў толькі ў Мінску супраць "Тарпеда-СКА". Хаця, напрыклад, мазыране змаглі выйграць у Жодзіне.

Больш непрыемна было даведвацца аб выніках матчаў супраць так званых сераднякоў табліцы. У паядынках з "Нафтанам", "Дняпром-Трансмашам" і "Нёманам" камандзе не хапіла характару. Яго праяўленні можна было заўважыць толькі ў заключных матчах круга (нічыі з брэсцкім "Дынама" і "Дарыдай"), калі футбалісты імкнуліся зарэкамендаваць сябе перад магчымымі пераходамі ў іншы клуб.

З чацвёркі калег-аўтсайдэраў не саступілі нікому, аднак усе гэтыя матчы праходзілі дома, таму можна і пашкадаваць, напрыклад, аб страчанай перамозе над армейцамі. Які б склад у Маладзечне не застаўся гуляць у другім крузе, дзейнічаць супраць асноўных канкурэнтаў на выездзе будзе вельмі цяжка.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Развітальны матч

**19 ліпеня. 1800 гледачоў. Суддзя Майстроў. Маладзечна-2000 – Дарыда (Ждановічы) 1:1 (0:0). Галы: М.Альхавік (53); Дзімітраў (75)**

Склад: 1.Сцепановіч – 3.Косак, 9.Кабельскі, 5.Сысой (14.Лявончык,84) – 2.Кухлей, 4.А.Альховік (17.Дараховіч,57), 7.Якубоўскі, 6.Пазняк – 11.Макрыцкі, 10.М.Альхавік, 8.Сідарэнка (12.Тураў,63)

Нягледзячы на 30-градусную спёку гэты матч быў, мабыць, самым цікавым з усіх праведзеных сёлета ў Маладзечне. На дзеяннях гаспадароў адбілася жаданне зарэкамендаваць сябе перад магчымым пераходам у іншы клуб, а таксама парадаваць на развітанне публіку.

У першым тайме, пакуль гульцам хапала сілаў, абедзве каманды дзейнічалі сканцэнтравана і не дапускалі значных памылак у абароне. Ля нашых варот запомніўся момант, калі ў варатарскай у адчайнай барацьбе скупіліся чалавек шэсць, і госці ледзь не праштурхнулі мяч у сетку. Гаспадары ж стварылі некалькі паўмомантаў, з якімі добра справіліся саперні́кі.

Затое пасля перапынку па меры наступлення стомленасці ў футбалістаў гульня станавілася ўсё больш адкрытай, а значыць, хвалюючай для гледачоў. Спачатку перавагай валодалі маладзечанцы, і ўрэшце М.Альхавік, прыняўшы пас ад Сысоя, у акружэнні абаронцаў нанёс удар метраў з 20 нізам у далёкі кут, з чым не справіўся прыезжы галкіпер (1:0). Адразу ж нашы стварылі яшчэ два спрыяльныя моманты, аднак непрыемным чынам загубілі іх. Тым часам госці атакавалі ўсё больш небяспечна, і плён ім прынёс далёкі стрэл з досыць вострага кута, якому не перашкодзіў ні абаронца Сысой, ні варатар Сцепановіч (1:1). Былі ў дарыдаўцаў яшчэ некалькі вострых момантаў, затое "Маладзечна-2000" мела права патрабаваць ад арбітра прызначэнне пенальці, калі Макрыцкага, які валодаў мячом у штрафной, падштурхнулі ў спіну.

19.07. Тарпеда (Ж) – Славія 1:3, Зорка-ВА-БДУ – Тарпеда-СКА 1:3, Нафтан – Лакаматыў 2:1, Белшына – Дынама (Б) 2:2.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Анонс**

**27 ліпеня. Маладзечна. Гарадошны стадыён. Пачатак з 11.00.**

Стартавыя паядынкі другога круга клубнага чэмпіянату.

Збяруцца 4 каманды першай лігі (мясцовыя МЭС і СКА, "Нёман" з Бярозаўкі, "Аўтасіб" з Мінску) і 4 каманды другой лігі (мясцовыя "Маладзечнамэбля" і "Юнацтва", "Нёман-2", "Камунальнік" з Жодзіна).

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# Розныя ўзроўні стартаў

**У Гомелі прайшлі рэспубліканскія спаборніцтвы ва ўсіх юнацкіх узростах.**

Спартсмены 1989-90 г.н. выступалі ў звязках з некалькіх відаў. II месца ў Дзмітрыя Жыжлы (скачкі ў вышыню – бег 60 м – трайны скачок), III месца ў Веранікі Сянько (бег 300 м – бег 600 м).

Ва ўзросце 14-15 год двойчы другім прызёрам быў Павел Вашынка (800 м, 1500 м), таксама II месца ў Паўла Крушынскага (1500 м з перашкодамі), III месцы занялі Дзмітрый Жыжла (скачкі ў вышыню) і Антон Балдоўскі (скачкі ў даўжыню).



Вікторыя Вяроўкіна. Фота з архіва «РГ».

У юнакоў 1986-87 г.н. адзначым Яўгена Мучынскага, які перамог на дыстанцыі 3 км, што дапамагло яму трапіць у выязны склад нацыянальнай зборнай для ўдзелу ў Еўрапейскіх Алімпійскіх днях моладзі ў Парыжы.

Дзяніс Гіль перамог на 5 км і Аляксандр Камінскі быў другім на 2 км з перашкодамі.

Спаборніцтвы юніёраў (1984-85 г.н.) адбыліся ў Брэсце, дзе Павел Соніч заняў II месца на 5 км.

Чэмпіянат краіны сярод дарослых прайшоў у Мінску. Вызначыліся спартсмены, якія родам з рэгіёна, але зараз тут не жывуць. Бронзавы прызёр Алімпіяды-96 Васіль Капцюх (Маладзечна) перамог у кіданні дыску з салідным вынікам 63,28 м. Аксана Васілеўская (Хажова Маладзечанскага раёна) перамагла ў бегу на 3 км з перашкодамі (некалькі бар'ераў і адна яма з вадой на крузе) з часам 10.51,97. Вікторыя Вяроўкіна (Вілейка) у адсутнасці некалькіх моцных саперніц заняла другое месца ў бегу на 400 м з часам 54,23. А вось маладзечанец Руслан Садоўскі не выступіў з-за хваробы.

Нарэшце Наталля Харанэка (Высокае Ашмянскага раёну) перамагла ў польскім Быдгашчы на чэмпіянаце Еўропы сярод моладзі да 23 гадоў. Яна штурхнула ядро на 17,66 м. Гэта больш чым на паўметра лепш за канкурэнтаў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

# Валявая перамога

**20 ліпеня. 2300 гледачоў. Суддзя Чэрнік. Ліда – Смаргонь 1:2 (1:0). Галы: Парфёнаў (18); Валовік (62, 81)**

Матч геаграфічных суседзяў быў вельмі баявым і ўпартым. Лідчане адкрылі лік дакладным далёкім ударам. Валовік аднавіў раўнавагу на табло, прыгожа прабіўшы галавою. А за 10 хвілін да заканчэння сустрэчы дабавіў мяч у сетку, калі Дукса і Шырабокаў, што называецца, "зрабілі" пераможны гол.

**20.07. ЗЛіН – Граніт 0:2, МТЗ-РІПА – Камунальнік 4:0, Пінск-900 – Ведрыч-97 0:5.**

| | |
|---|---|
| 1. МТЗ-РІПА | 31 |
| 2. Лакаматыў (В) | 30 |
| 3. ЗЛіН | 27 |
| 4. Хімік | 27 |
| 5. Граніт | 26 |
| 6. Смаргонь | 23 |
| 7. Ліда | 23 |
| 8. Ведрыч-97 | 21 |
| 9. Камунальнік | 20 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ФУТБОЛ, ВЫНІКІ

**18 ліпеня. Маладзечна-2000 (дубль) – Дарыда (Ждановічы, дубль) 2:5 (1:1)**

Развіццё падзей: (9) – 0:1, Харэцкі (37) – 1:1, (57) – 1:2, Галенка (66) – 2:2, (80), (83), (84) – 2:5

Першы круг дублёры завяршылі на апошнім месцы, маючы 1 нічыю і 14 паражэнняў пры розніцы мячоў 4-41. Тым часам дублёры "Зоркі-ВА-БДУ", якія ідуць на 15-ым месцы, маюць 11 ачкоў.

**20 ліпеня. Забудова – Змена (Мінск) 0:2**

Галы: (69), (81). На 54-й хвіліне выдалены Івашкевіч (Забудова)

■ ШАХМАТЫ

**ВАЛОЖЫН. У гонар Міжнароднага дня шахмат 20 ліпеня шмат дзе ў рэгіёне прайшлі мясцовыя турніры.**

Так, у Валожыне сабраліся 10 удзельнікаў. Пераможцам стаў Юрый Княжэвіч.

■ ВЕЛАСПОРТ

**МАЛАДЗЕЧНА. 10-12 ліпеня прайшла шматдзённая гонка Мінскай вобласці.**

Удзельнічалі больш за 40 юніёраў 1986 г.н. і меншыя ў складах 6 каманд. Найлепш з маладзечанцаў выглядалі Павел Ялагін і Сяргей Траска. Усяго было праведзена 6 гонак. Напрыклад, у гонцы-крытэрыуме на 30 км Ялагін быў 4-ым, у пралозе на 1 км – 5-ым, а ў гонцы на час на 4 км Траска стаў 8-ым. У выніку Ялагін застаўся на 12-ым месцы, а каманда гаспадароў стала чацвёртай.

Прызёры ў камандным заліку: 1. Зборная Беларусі. 2. "Дынама" (Мінск). 3. Мінскі раён.

Прызёры ў асабістым заліку: 1. Павел Яўхута (Мінскі раён). 2. Сяргей Папок ("Дынама"). 3. Аляксандр Сінельнікаў (зборная).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

 

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем з юбілеем **Хаванскую Жану Мячаславаўну.** Жадаем ад Бога — здароўя, ад сонца — цяпла, ад людзей — дабра, кахання і прыгажосці. *Юшчукі.*

Віншуем з днём нараджэння **Таццяну Жаўток**! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў, шмат грошай. *Кацярына з сям'ёй.*

Віншуем з днём нараджэння дарагую дачушку **Страмкоўскую Святлану Сяргееўну**! Здароўя, поспехаў ў працы, шчасця. *Тата, мама.*

Віншуем з днём нараджэння любімую сястрычку **Страмкоўскую Святлану Сяргееўну**! Здароўя, шчасця, аптымізму, кахання. *Сям'я Чэрнік.*

Віншуем пляменніка і браціка **Цішко Валянціна** з днём нараджэння! Жадаем здароўя і добра вучыцца. *Цётка Галя, Аксана, Карына.*

Віншуем сыночка і браціка **Цішко Валянціна** з днём нараджэння! Моцнага здароўя, шчасця і поспехаў у вучобе. *Мама, тата, сястра.*

Віншую свайго хросніка **Валянціна Цішко** з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, добрых адзнак. *Мама Маша.*

Віншуем **Бутлак Людмілу** з Мінска. Усяго найлепшага ў дзень нараджэння. Здароўя, удачы, кахання, павагі. *Сем'і Цішко, Прадко.*

Паважаная **Ядвіга Іванаўна,** віншуем з днём нараджэння. Здароўя, шчасця і даўгалецця. *Дачка, зяць, унукі.*

Віншуем **Пяткевіч Наташу** з днём нараджэння! Жадаем кахання, веры, надзеі, дабра. *Мама і сястра Жана.*

Віншую са святам работнікаў гандлю **Фалей Алену, Агеннікаву Валянціну, Якубовіч Святлану**. Здароўя, кахання. *Ніна.*

Віншую **Касяровіч Таню** з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, кахання і доўгіх гадоў жыцця. *Мама Фаіна.*

# Мая Беларусь

**Дарагія чытачы! Гэтую рубрыку "РГ" распачынае сёння, ідучы насустрач вашым шматлікім пажаданням. Ведаючы, што нашу газету чытаюць цікаўныя людзі, якія любяць сваю Радзіму, мы вырашылі прапанаваць вам віктарыну "Мая Беларусь".**

"Мая Беларусь – гэта прыгожая краіна з багатым мінулым, гасціннымі і працавітымі людзьмі і маляўнічай прыродай". Такімі словамі пачынае свой фотаальбом журналіст Сяргей Плыткевіч. Гэтую прыгожую кнігу з аўтографам аўтара (галоўны прыз) атрымае пераможца нашага інтэлектуальнага спаборніцтва. Яшчэ некалькіх удзельнікаў чакаюць сувенірныя паштоўкі.

Віктарына складаецца з трох тураў, сёння – першы. Агульныя вынікі будуць падведзены ў самым канцы, але мы адзначым пераможцаў кожнага тура.

Для ўдзелу ў першым трэба выбраць правільны адказ (за кожны налічваецца адзін бал) і запісаць яго ў гульнёвы купон, адзначыўшы таксама самае лепшае на ваш густ пытанне тура. Запоўнены купон неабходна выразаць і даслаць у рэдакцыю.

Вашыя адказы чакаем 7 дзён – да наступнай пятніцы. На канверце, калі ласка, пазначце: «Віктарына».

### Пытанні першага тура:

1. З 13 па 16 стагоддзе існавала Вялікае княства Літоўскае. Які князь з'яўляецца стваральнікам гэтай магутнай незалежнай дзяржавы?
**(Гедымін. Вітаўт. Міндоўг.)**

2. Гаты замак – сведка шматлікіх гістарычных падзей. Менавіта ў ім у 1385 годзе была падпісана унія – дакумент, які паклаў пачатак стварэнню Рэчы Паспалітай. У якім мястэчку быў узведзены згаданы замак?
**(Крэва. Мір. Гальшаны.)**

3. Не адзін раз на працягу стагоддзяў гэтая рака з'яўлялася арэнай баявых дзеянняў. У 1812 годзе пры пераправе праз яе каля вёскі Студзенкі вялікія страты панесла армія Напалеона. Пра якую раку ідзе размова?
**(Дняпро. Бярэзіна. Нёман.)**

4. У савецкі час у нашай краіне шырока прымянялася практыка перайменавання назваў населеных пунктаў. Які з гэтых гарадоў да 1923 года насіў назву Ігумен?
**(Дзяржынск. Чэрвень. Слаўгард.)**

5. 1/3 частка тэрыторыі Беларусі пакрыта лясамі. Якое дрэва ў іх з'яўляецца самым распаўсюджаным?
**(Сасна. Елка. Бяроза.)**

6. Кнігі вядомага пісьменніка Васіля Быкава не раз натхнялі рэжысёраў на пастаноўку фільмаў і спектакляў. Па якім з гэтых твораў быў зняты кінафільм "Узыходжанне"?
**("Абеліск". "Пастка". "Сотнікаў".)**

Падрыхтаваў Мікола ЛІПСКІ.

**Віктарына «Мая Беларусь». Першы тур.**

1 ______________ 4 ______________
2 ______________ 5 ______________
3 ______________ 6 ______________

Самае лепшае на ваш погляд пытанне пад № ______

**Пра сябе**

Прозвішча ______________
Імя ______________ Імя па бацьку ______________
Дата нараджэння ______________
Адрас ______________
Тэлефон ______________

## ■ КОНКУРСЫ

# Збяры карцінку

**Вітаем вас, аматары конкурсаў. Працягваем наш конкурс "Збяры карцінку".**

У дзевяці летніх нумарах "РГ" мы друкуем кавалачкі цэлага малюнка. Сёння прапануем вам восьмы фрагмент малюнка. Першы быў надрукаваны ў №23 за 6 чэрвеня, апошні будзе надрукаваны ў пятніцу, 1 жніўня. Галоўнае, не згубіць ніводнага кавалачка, бо карцінка не атрымаецца.

Збярыце карцінку, прыдумайце ёй назву ці складзіце вершык. Складзеную карцінку са сваім творам (з назвай) дашліце нам у рэдакцыю "РГ" (Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а) не пазней за 10 жніўня.

Да канца апошняга летняга месяца мы аб'явім пераможцаў.



Фрагмент №8

## ■ ІМЯНІНЫ

**25 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Марыі, Арсенія, Івана, Міхаіла, Сімона, Фёдара.
**Каталіцкія**: Віктара, Крыштафа, Якуба.
**26 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Андроніка, Гаўрылы, Юльяна.
**Каталіцкія**: Гражыны, Міраславы, Аўхіма.
**27 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Анісіма.
**Каталіцкія**: Наталлі, Юліі.
**28 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Кірыка, Савы, Уладзіміра.
**Каталіцкія**: Віктара, Інакенція.
**29 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Валянціны, Юліі, Паўла.
**Каталіцкія**: Марфы, Олафа.
**30 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Веранікі, Маргарыты, Марыны, Лазара, Леаніда.
**Каталіцкія**: Людмілы, Юліты, Пятра.
**31ліпеня**
**Праваслаўныя**: Емяльяна, Івана.
**Каталіцкія**: Ігната, Любаміра.

## ■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Мне б торцік

Да кандытарскага аддзела падыходзіць зморанага выгляду мужчына з напалову запоўненай карзінай і пытаецца ў прадаўшчыцы:

– А якія ў вас торцікі смачныя?

– Яны ўсе смачныя...

– Але якія ўсё ж смачнейшыя?

– А вы што любіце, каб унутры было?

– Я? Гарэлка! Але я не ўжо купіў, – і паказвае літровую бутэльку белай, – мне б торцік...

Савось ЯКІМОВІЧ.

# Платны туалет у Вілейцы

**ВІЛЕЙКА. З ліпеня пачаў працаваць першы ў горадзе платны грамадскі туалет. Размешчаны ён у цэнтральным парку.**

Паслугамі, якія каштуюць 100 рублёў, карыстаюцца каля 70 чалавек за дзень. Нават у час дыскатэк, якія праводзяцца ў парку, у туалет прыходзіць не больш за 20 чалавек. Гандляры з рынка праз дарогу таксама не спяшаюцца плаціць грошы. Ды многія ўвогуле яшчэ не ведаюць пра існаванне прыбіральні. Такой колькасці наведвальнікаў яўна не дастаткова для яе рэнтабельнасці. Магчыма, сітуацыя палепшыцца, калі будзе зачынены размешчаны паблізу бясплатны грамадскі туалет, які, дарэчы, мае вельмі непрывабны выгляд. Але пакуль людзі аддаюць перавагу грашам, а не камфорту.

Аднак, як сказала касір прыбіральні Марына Суднікович, некаторыя могуць заплаціць 100 рублёў толькі для таго, каб паглядзець, як выглядае туалет унутры.



Новая аздоба парку ў Вілейцы – платны туалет. Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

Прыбіральня належыць Вілейскай жыллёва-камунальнай гаспадарцы. Будаўніцтва, якое пачалося восенню 2001 года, ішло з цяжкасцямі. Папершае, з-за недахопу фінансавання расцягнуліся тэрміны ўзвядзення туалета. Па-другое, пратэсты выказалі жыхары пяціпавярхоўкі, што побач, – яны не хацелі такога суседства. Па-трэцяе, працяглы час вуліца Савецкая, па якой да туалета праводзілася каналізацыя, была раскапана.

Намеснік дырэктара Вілейскай ЖКГ Віктар Паўлоўскі пракаментаваў: "Вы ж ведаеце, што такое не акупаецца".

Узвядзенне новых платных туалетаў у горадзе не прадбачыцца.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.
Яўгенія МАНЦЭВІЧ.



# ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына 49 год пазнаёміцца з мужчынам 45-55 год для стварэння сям'і. 223340, Валожын, п/н №С0280497 да запатрабавання.

# Купон 30

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

## ■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

**Дзякуй усім, хто адгукнуўся на наш конкурс "Зарабі білеты ў кіно".** Сярод тых, хто першымі справіліся з заданнем былі **Юрый Скрыль, Віктар Яцкоўскі, Арцём Абцэвіч, сям'я Яршэвічаў, Марыя Снапок і Антон Бандаронак.** Яны і іншыя атрымалі білеты ў кіно. У хаосе літар былі схаваны 23 словы: навіны, цэны, анонс, тэлетыдзень, калейдаскоп, грамадства, экалогія, турызм, адукацыя, крымінал, надвор'е, спорт, курсы, гараскоп, апытанне, лета, анекдот, мінулае, сям'я, імяніны, куфэрак, вытворчасць, погляд.

Прапануем вам наступнае заданне. Перад вамі – фраза. Яе аўтар – Публілій Сір. У кожным слове зменены парадак літар. Перастаўце літары так, каб атрымаліся словы, а з іх – фраза.

Мы чакаем вашых адказаў у рэдакцыі па адрасе Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а. Можна патэлефанаваць: 8(01771)69667. Спяшайцеся, колькасць білетаў абмежаваная.

БОРДЕА АЛВСО ЕЛЙПЕ АЗ ЦААГЦЕБ

Падрыхтавала Аксана КУЛЕЎНІЧ.

# Кінатэатр «Радзіма»

**28 ліпеня — 3 жніўня.**
**"Нацыянальная бяспека"**, ЗША, баявік – у 17.00 і 21.00.
**"Джордж з Джунгляў"**, ЗША, камедыя, Брэндан Фрэйзер – у 17.00 і 21.00.
(Кожную сераду ільготныя білеты на сеанс у 17.00).

### Для дзяцей

**29 ліпеня. "Сняжок"**, Італія, прыгоды – у 13.00.
**31 ліпеня. "Аперацыя "Далмацінцы"**, ЗША, прыгоды – у 13.00.
Працуе бар.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Чым цяпер занятае ваша дзіця?



**Таццяна Закрэўская, загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі раённай бібліятэкі:**

— Малодшая дачка ў загарадні летніку. Старэйшая – на дачы. Там у яе шмат сяброў, з якімі яна ганяе на веласіпедзе. У летнік не адпусціла, яна вельмі жвавая. А на дачы з дзвюма дзяўчынкамі бабулі цяжка.



**Сяргей Ляшчынскі, трэнер:**

— Мяркую, што мая дачка есьць. Яна яшчэ маленькая, таму сілкуецца часта. У мяне ёсць яшчэ 28 дзяцей. Іх, 13-16-гадовых дзяўчынак, вучу гуляць у футбол.



**Ігар Яршэвіч, аператар кацельні:**

— На два тыдні сын паехаў да бабулі, якая жыве на Мядзельшчыне. Ёй не дакучае, паслухмяны — праверана. Ходзіць па грыбы ды ягады, поле агарод.



**Эльвіра Грушэўская, зборшчыца:**

— Старэйшая дачка рыхтуецца паступаць ў Мінскі медыцынскі каледж. Сярэдняя і малодшы сын дапамагаюць па гаспадарцы. Праўда я так думаю, а на самой справе, здараецца, яны на вушах стаяць.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НАДВОР'Е



| Мінск | 26.07 | 27.07 | 28.07 | 29.07 |
|---|---|---|---|---|
| ападкі (на працягу сутак) | | | | |
| тэмпература,°С днём | +26 | +27 | +18 | +21 |
| ноччу | +18 | +18 | +19 | +15 |
| атмасферны ціск, мм | 737 | 736 | 738 | 740 |
| хуткасць ветру, м/сек | 1-3 | 2-5 | 1-3 | 2-5 |



| Вільня | 26.07 | 27.07 | 28.07 | 29.07 |
|---|---|---|---|---|
| ападкі (на працягу сутак) | | | | |
| тэмпература,°С днём | +25 | +23 | +23 | +23 |
| ноччу | +19 | +20 | +16 | +14 |
| атмасферны ціск, мм | 743 | 743 | 747 | 748 |
| хуткасць ветру, м/сек | 1-3 | 2-5 | 1-3 | 1-3 |

## Чытайце праз тыдзень:

**ХАЧУ Ў ПАРЫЖ!** Многія нашы землякі едуць зарабляць на хлеб з маслам за мяжу. Здаецца, чым далей ад дому, тым больш плацяць. Але народная мудрасць сцвярджае: «На Падоллі — пірагі па коллі. Мы прыйшлі і там іх не знайшлі». Адзін з нашых суайчыннікаў нядаўна вярнуўся з Францыі і ведае, як там жывецца эмігрантам. Чытайце аб гэтым у матэрыяле Святланы Цішко.

## Гараскоп 28 ліпеня – 3 жніўня



**Авен (21.03–20.04)**

У панядзелак верагодна ўзнікненне новай рамантычнай сувязі. А на аўторак трэба запланаваць сустрэчу з прадстаўнікамі дзяржаўных інстанцый, да прыкладу, візіт у налогавую інспекцыю. Вось такія кантрасты. У цэлым, насычаны падзеямі перыяд. У выхадныя – больш сну і адпачынку.



**Цялец (21.04–21.05)**

У панядзелак нехта з вас атрымае грошы, магчыма, нават не ў адным месцы. У сераду пашукайце альтэрнатыву ўсяму, што вас не зусім задавальняе. Канец тыдня абяцае візіт старых добрых сяброў, ад якога вы зможаце атрымаць сапраўдную асалоду. Галоўны боль можна набыць толькі перадазіроўкай спіртнога.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Будзьце асцярожнымі ў аўторак – падман і спрытнасць перад начальствам вам не дапамогуць, вы толькі нашкодзіце гэтым сабе. Тым, хто вырашае жыллёвае пытанне, неабходна будзе "пабегаць" тыдзень, каб не застацца ў дурнях. Выхадныя дні прысвяціце свайму партнёру: лепш за ўсё адправіцца за горад удваіх.



**Рак (22.06–23.07)**

Чацвер прынясе вынік справы, якую вы ўжо лічылі зусім безнадзейнай. А з пятніцы па нядзелю вы будзеце падобны да Мідаса, бо ўсё, да чаго вы прыкладзеце руку, зайграе ўсімі колерамі вясёлкі. Аднак вы ж рызыкуеце набыць такую яркую рэпутацыю, якую вельмі цяжка будзе падтрымліваць у далейшым. Карацей, памятайце пра будні.



**Леў (24.07–23.08)**

Ёсць верагоднасць пачаць тыдзень з канфлікту, таму пазбягайце катэгарычнасці ў меркаваннях. Клопаты аб прыбаўцы да зарплаты могуць быць марнымі. Аднак гэта будзе азначаць ці тое, што ад вас хочуць адмахнуцца, ці тое, што вашая надакучлівасць дастала начальства. Эмоцыі на мяжы нервовага зрыву. Адыдзіце ў цень.



**Дзева (24.08–23.09)**

У сераду вам можа спатрэбіцца дапамога іншых людзей, прычым, нават у большым аб'ёме, чым вы думаеце. Не саромцеся прасіць аб ёй, стаўкі могуць быць вельмі высокімі, каб нерашучасць можна было апраўдаць. У канцы тыдня магчымы недамаганні, некаторая істэрычнасць і сваркі ў сям'і.



**Шалі (24.09–23.10)**

Нестабільны перыяд. Асабліва праявіце асцярожнасць у сераду, калі многія будуць схільныя адшукаць таемны сэнс у вашых словах і крыўдзіцца на знойдзенае. Не давайце ім такую магчымасць. А вось у чацвер можаце пачынаць любыя справы – усё пойдзе як па масле. Смела рушце ў дарогу.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Для некаторых тыдзень пачнецца з сустрэчы з сябрамі-іншаземцамі; зносіны будуць не толькі прыемнымі, але і карыснымі. У чацвер зноў будзе шмат сустрэч, якія абнадзейваюць, магчыма адкрыюцца прынадныя перспектывы. А вось эмацыянальны стан пагражае неўраўнаважанасцю і зрывамі.



**Стралец (23.11–21.12)**

Калі ў вас ёсць сябры, з якімі вы па нейкіх прычынах паспрачаліся і даўно не сустракаецеся адзін на адзін, запрасіце іх правесці разам вечар у аўторак. Магчыма, вырашацца некаторыя пытанні, якія не давалі вам спакою. Бліжэй да выхадных давядзецца вызначацца ў нейкай важнай справе, інакш упусціце магчымасць.



**Казярог (22.12–20.01)**

У панядзелак вам могуць вярнуць доўг ці зрабіць каштоўны падарунак. Многіх вечарам чакае радаснае спатканне. Хутчэй за ўсё, менавіта гэты дзень дазволіць вам прыйсці да згоды з партнёрам ці набыць мір у душы. У прынцыпе, такімі спакойнымі і прыемнымі будуць і астатнія дні наступнага тыдня.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Увага! Службовы раман можа выклікаць адкрытую варожасць з боку калег і начальства. Але зусім не значыць, што трэба неадкладна адвярнуцца ад сваёй сімпатыі, проста асцярожнасць у любым выпадку не нашкодзіць. Невялікія фінансавыя паступленні дазволяць наладзіць маленькае свята ў суботу.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Становішча планет перашкаджае нармальнаму цячэнню спраў. У вас з'явіцца жаданне нешта памяняць у жыцці. А ў чацвер магчымы нечаканы паварот падзей, сустрэчы з уплывовымі людзьмі. За гэты тыдзень вы можаце стварыць нешта, што заслугоўвае ўвагі ў якасці свабоднага мастака.



**Рэгіянальная газета**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227
**Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёну і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **10140 экз.**
Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
У розніцу – цана свабодная. **№30 (431) 25.7.2003.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11. Зак. № 2369. Падпісана ў друк у 13.00 24.7.2003

Наш адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.** Тэлефоны/факс: (01773) **6-96-67**, **5-38-41** (рэклама), **5-07-99**
E-mail: regionnews@promedia.by, http://regionnews.promedia.by

**Прыём дробных аб'яў**

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **69667, 53841.**
**Вілейка** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. **55284.**
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.**
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». Тэл. **33077.**
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 1, аддзяленне сувязі №2 Смаргоні. Тэл. **22211.**
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **99172.**

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна: **Астравец** – 01591, **Ашмяны** – 01593, **Валожын** – 01772, **Вілейка** – 01771, **Маладзечна** – 01773, **Мінск** – 017, **Мядзел** – 01797, **Смаргонь** – 01592

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444**